стаўленьні пісьменьніка да гістарычнага матэрыялу не як да ўласна-гістарычнага, а як да ўмоўна-гістарычнага. Нягледзячы на магчымае фармальнае падабенства твораў-парабал да гістарычнай прозы, яны не зьяўляюцца ў поўным сэньсе гістарычнымі, калі бярэцца сытуацыя з канкрэтнай эпохі. Такі твор пабудаваны ў адпаведнасьці з тымі задачамі, якія ставіў перад сабой аўтар, і перанесены ў пэўную, зноў-жа ўмоўна-гістарычную, часам храналагічна не канкрэтызаваную эпоху. Тут маем не гістарычны сюжэт, а стылізаваную фабулу, акрэсьленую гістарычнымі рамкамі.

У апавяданьні В. Ластоўскага "Прывід" ня толькі мінулае ўмоўнае, але й сучаснае, умоўныя самі пэрсанажы. Да Ігната, што «ляжаў на печы і думаў аб сваёй паганай долі», зьяўляецца багіня; і « Ігнат, шырока раскрыўшы вочы, маўчаў і... не разумеў нічога <...> паслушна ссунуўся зь печы, каб пацалаваць у руку ёй» (вось яны, ненавісныя пісьменьніку быццам спрадвечныя рысы беларускай мэнтальнасьці — пасыўнасьць і рабская пакорлівасьць), а багіня пасьля знаёмства з «патомкам паўбагоў» у роспачы кажа: «Божа мой, колькі рабства!.. Негрыцянскі нявольнік больш захаваў у сабе гордасьці, чым у цябе, чалавеча, асталося... Бачу, як праз доўгія вякі пагляд твой плюгавіўся пакорай, галава паклонамі, вусны лізаньнем рук нячыстых... Няволя затуманіла памяць тваю; забыўся ты людзкой назовы сваёй і гэтым сьцёр ты зь ліца свайго знамя людзкое... не, чалавеча, скарбы мае рассыплю перад табой толькі тады, як ты прыпомніш імя людзкое сваё, калі прабудзіцца ў табе адвага й гордасьць...». (8) Названы твор характэрны для творчай манеры В. Ластоўскага, як пісьменьніка-гісторыка. Ён ляканічны, сымбалі разьлічаны і на дасьведчанага чытача, і на непадрыхтаванага, які бачыць толькі павярхоўны зрэз твора. Малюнак (што наагул уласьціва парабалічнай прозе) аднамерны: кожны элемэнт сыстэмы надзелены адной асаблівасьцю, той, якая адпавядае намерам аўтара й дыктуецца інтарэсамі агульнай карціны.

Як гістарычны твор, апавяданьне "Прывід" дэманструе ўменьне Ластоўскага бачыць прычыны сучасных нацыянальных праблемаў — ня ў зьнешніх ворагах (хоць ён і піша пра іх у іншых творах), а ва ўнутраным стане нацыі.

«Некаторыя знакамітыя нацыянальныя мастакі, якія ня выйшлі ў вялікае плаваньне, лічаць, што нацыянальнымі яны зьяўляюцца тады, калі *ўсхваляюць* свой народ, радзіму і жыцьцё. Гэта толькі ніжэйшы від нацыянальнага ў мастацтве. Больш высокі і сьмелы яго від я бачу ў здольнасьці мастака да *нацыянальнай самакрытыкі»*.(9)

Аповесьць "Лябірынты" таксама нельга безагаворачна назваць гістарычнай. Хутчэй, гэта мастацка-гістарычны трактат, дзе вырашаецца праблема аднаўленьня вытокаў, страчаных у выніку розных прычынаў, у тым ліку і жорсткіх мэтадаў увядзеньня новай веры (пра тое апавяданьне "Часы былі трывожныя"), — аднаўленьня старажытнай міфалагічнай сыстэмы, якая фактычна не дайшла да нас. Іншымі словамі, праблема звароту пэўнага зводу маральных, філасофскіх, гістарычныхісьцін.(10) У "Лябірынтах", як і ў "Прывідзе", аповяд вядзецца на мяжы рэальнага. Тут мінулае і сучаснае злучыліся і прайшлі скрозь жыцьцё і сьвядомасьць сучаснага чалавека. Гэты мастацкі прыём атрымае пазьней у беларускай літаратуры значнае пашырэньне. В. Ластоўскі, бадай упяршыню, выкарыстоўвае новы падыход да рэканструкцыі мінулага, заснаваны на разуменьні гісторыі асобнага народу як канкрэтнага ўвасабленьня трансфармаваных агульных заканамернасьцяў сусьветнай гісторыі.

Час для мастацкай прозы значыць прыкладна тое, што для жывапісу — прастора. Як мастакі згортваюць звыклую трохмернасьць рэальнай прасторы ў дзьвюхмерную, спалучаючы рознавялікія фігуры, парушаючы пэрспэктыву, сумяшчаючы пярэдні і задні планы, дабіваючыся акцэнтацыі рэальнасьці або наадварот, уяўнасьці прасторы, гэтак і пісьменьнікі сумяшчаюць часавыя рамкі твораў, каб надаць ім новы, нечаканы ракурс, паказаць чалавека і яго акружэньне ў нязвычайным асьвятленьні. Са спалучэньня сучаснасьці з мінуўшчынай, гісторыі з легендай, сумяшчэньня часавых плоскасьцяў вынікае эфэкт унівэрсальнасьці, пазачасавай значнасьці. Так, да прыкладу, у "Лірных сьпевах" Максіма Гарэцкага сучаснасьць у спалучэньні зь мінулым сама набывае рысы легендарнасьці і, разам з тым, тры часавыя плоскасьці

сумяшчаюцца так, што мінулае выглядае ня менш рэальным за сучаснае. Чацьвёртая плоскасьць — чытацкі час — як-бы знаходзіцца на роўных часавых адлегласьцях ад трох іншых. Так, у "Патаемным" бліскуча намалявана ўзыходжаньне ў міфалагічнай сьвядомасьці часовага да вечнага. У іншых апавяданьнях, створаных быццам-бы на бытавым матэрыяле, як "Панская сучка", "Смачны заяц", — такіх багата ў кнізе "Досьвіткі", дзе распавядаецца пераважна пра Беларусь часоў прыгону, — апавяданьне, показка пра канкрэтныя падзеі прачытваюцца, як міф новага часу, што ўзьнікае ў рэчышчы народнай міфалёгіі зямлі, на якой адбываюцца падзеі. Менавіта сувязь з паданьнямі, легендамі надае апавяданьню міфалагічны каларыт, садзейнічае актуалізацыі абагульнена-знакавага зьместу, паслабленьню канкрэтнага. Міфалагізаваная падзея набывае пазагістарычнае гучаньне, бо «міф ня ведае катэгорыі часу, жыцьцё ў міфе — вечнае паўтарэньне». (11)

Посьпехі гістарычнай навукі 20-30-х гадоў на Беларусі стварылі магчымасьць для зьяўленьня твораў, якія грунтуюцца ўжо не на паданьнях, а на дакумэнтах.

Адзін з найбольш значных твораў — аповесьць Юркі Віцьбіча "Арцыбіскуп і сьмерд". Здарэньне, пакладзенае ў аснову аповесьці, па сваёй вастрыні, можа быць, і ў сапраўднасьці ўнікальнае для талерантнай Беларусі. Нездарма-ж ацэнка яго ня раз станавілася мейсцам сутыкненьняў людзей розных рэлігійных і палітычных поглядаў, бо ў гэтай трагічнай гісторыі, на думку многіх, у гранічна канцэнтраваным выглядзе адлюстравалася адна з найскладанейшых праблемаў Беларусі — шматканфэсіянальнасьць, адсутнасьць у беларусаў адзінага духовага цэнтру.

Юрка Віцьбіч быў супраць таго, каб разглядаць гэтую трагедыю адно з пункту гледжаньня веры. Да таго-ж ён лічыў, што вельмі небясьпечна беларусам акцэнтаваць рэлігійны бок гэтай падзеі. Пазьней, ужо на эміграцыі, у палеміцы з П. Вішнеўскім, ён даволі падрабязна растлумачыў свае погляды.

У газэце "Беларус" (№ 123-124 за 1967 год) зьявіўся

артыкул П. Вішнеўскага “Шляхі паняволеньня”. Галоўная думка аўтара — праваслаўе і каталіцызм беларусаў неаднойчы выкарыстоўваліся іхнімі імпэрыялістычнымі суседзямі супраць беларускай дзяржаўнасьці. Толькі вунія мелася стацца тым моцным падмуркам, на якім магла ўмацавацца беларуская дзяржава.

У лісьце да рэдактара газэты доктара Станіслава Станкевіча (ад 29. 7. 1967 г.) Віцьбіч пісаў: «Справа вылучна ў тым, што ці варта на старонках нашае грамадзкае газэты парушаць, а тым болей у перадавіцы, вельмі дражлівыя рэлігійныя пытаньні, што й не на часе й не на мейсцы. І гэтак значную частку сваіх высілкаў на эміграцыі мы прамарнавалі на змаганьне з папамі розных напрамкаў, якія (папы з панамарамі і арганістамі) часта-густа не заслугоўвалі аніякае нашае ўвагі. Пры гэтым у часе сваркі, на пацеху нашым “добразычлівым” суседзям ды на іхнюю карысьць, перабіралі мерку два бакі. Цяпер у гэтым сэньсе ўсё ўвайшло больш-менш у норму. Дык навошта ажыўляць колішнюю калатнечу? Калі хтосьці дагэтуль абедзьвюма нагамі стаіць у сярэднявеччы, ён мае для сваіх паслугаў безьліч нашых рэлігійных часапісаў, пачынаючы ад “Беларускае Царквы” Пануцэвіча да “Сілы Веры” Асіпчыка».

Адносна-ж сутнасьці трагедыі Віцьбіч пісаў: «Не захаваю ад Вас, што мяне (ці толькі мяне) асабліва абурылі наступныя радкі: “...сукрытая рука Масквы дзеіла найбольш эфэктыўна. Шмат дзе даходзіла да бунту ў разагітаванага натоўпу. У часе аднаго з такіх бунтаў у Віцебску ў 1623 г. быў забіты полацкі — тады ўжо вуніяцкі — архіяпіскап Язафат. Хоць жахлівае гэна здарэньне шмат каго было ацьвярозіла, усё-ж яно не палажыла канца зацятаму, падсычанаму з варожых нам бакоў змаганьню: калі ў Рыме, на аснове цудаў, што здарыліся пры гробе мучаніка, абвесьцілі яго сьвятым, другі бок не астаўся ў даўгу, прадстаўляючы яго як увасабленьне ўсяго найгоршага...».

Даруйце за асабістае — мяне здаўна цікавіла гісторыя рэлігійнае вуніі ўвогуле і арх. Язафата Кунцэвіча ў прыватнасьці. Яшчэ ў № 5 “Узвышша” за 1931 г. мелася мая аповесьць “Ацыбіскуп і сьмерд”, прысьвечаная арх. Язафату.

У часе кіраваньня навуковай экспэдыцыяй у 1939 г. я наўмысьля ў Віцебску шукаў ды знайшоў мейсца пакараньня 19 забойцаў арх. Язафата на чале з войтам Навумам Воўкам. <...>

Ужо на эміграцыі напісаў адзін са сваіх, як на мой погляд, найлепшых твораў "Паданьне аб таямнічым сьвятле". <...> Ён прысьвечаны апошняму віцебскаму й полацкаму вуніяцкаму архіяпіскапу Язафату Булгаку, да якога стаўлюся зь цеплынёй і пашанай. Няма ў мяне гэтага пачуцьця да архіяпіскапа Язафата Кунцэвіча. Дый ці толькі ў мяне?

Далей — у Віцебску 12 лістапада 1623 г. меўся ня бунт, а паўстаньне, у якім удзельнічаў не натоўп, а народ» (падкрэсьлена Юркам Віцьбічам — Л. Ю.) (12)

У аповесьці "Арцыбіскуб і сьмерд" Юрка Віцьбіч і малюе народнае паўстаньне, у якім удзельнічаюць усе слаі грамадзтва — і войт і сьмерды, і гандляры і радцы... І аб'ядноўвае іх ня вера, а нацыянальная ідэя — ідэя незалежнасьці. Нельга забывацца, што аповесьць ствараляся ў час, калі панавала тэорыя клясавага расслаеньня народу і несумяшчальнасьці інтарэсаў розных клясаў, а тэма нацыянальнай незалежнасьці "малодшых братоў" бязьлітасна перасьледвалася. Ідэя незалежнасьці нідзе ў аповесьці адкрыта не заяўлена, але ўвесь мастацка-вобразны строй твору прыводзіць чытача да гэтай ідэі. Нездарма Віцьбіч лічыць патрэбным прыгадаць пра тое, як «ішлі з далёкай Маскоўшчыны жаўнеры і, раззлаваныя ўпорствам замкаў, палілі безабаронныя вёскі, забівалі старых і малых, гвалтавалі сінявокіх дзяўчат...». Так высьвятляецца сутнасьць трагічнага здарэньня, якое пераводзіцца з пляну рэлігійнай барацьбы ў плян змаганьня з захопнікамі. Так вырысоўваецца на гістарычным матэрыяле галоўная ў будучым тэма нарысаў, артыкулаў і кніг Юркі Віцьбіча — тэма барацьбы беларусаў за сваю незалежнасьць.

Працэс стварэньня міфа-гістарычнай прозы напрыканцы 20-х гадоў XX ст. і сур'ёзныя посьпехі гістарычнай навукі лагічна прывялі да магчымасьці зьяўленьня беларускага гістарычнага раману. Але на гэты час складваецца і ўкараняецца сталінская інтэрпрэтацыя гісторыі. Яе асноўны лёзунг — патрыятызм, які называюць савецкім,

аднак сутнасьць ягоная найчасьцей — расейска-шавіністычная. «Пошукі ”вялікіх продкаў”, хваля кінафільмаў, якія праслаўлялі расейскіх палкаводцаў мінулага — Аляксандар Неўскі, Сувораў, Кутузаў, расейскія цары — Пётра Першы і Іван Люты; шырокая плынь літаратуры, у якой усхваляліся дзеі Івана III, Дзімітрыя Данскога, узносілася ўсё "сапраўды расейскае" і высьмейвалася замежнае; зварот пераважна да сюжэтаў з расейскай гісторыі і расейскай літаратуры, музыкі, опернага мастацтва і драматургіі — усё сьведчыла пра тое, што разьвіцьцё культуры нашага грамадзтва ад гэтага часу будзе жорстка вызначацца інтарэсамі палітыкі і вялікарасейскага канфармізму».(13)

На ўсёй тэрыторыі вялізнай краіны засталася адна гісторыя — перарobленая і падробленая расейская гісторыя. Гісторыя беларусаў, як і гісторыя іншых народаў СССР, зьнікае. Як і шмат што іншае, беларуская гістарычная проза ў савецкай літаратуры была загублена і згублена якраз у момант яе магчымага росквіту.

Аднак распрацоўку гістарычнай і міфа-гістарычнай тэмы падхапілі беларускія пісьменьнікі, выкінутыя з афіцыйнай літаратуры, — у высылцы, як Язэп Дыла, Барыс Мікуліч, і на эміграцыі, Юрка Віцьбіч, Уладзімер Случанскі, Уладзімер Сядура і іншыя.

Пісьменьнікі на эміграцыі былі вольныя ад перасьледваньняў, цэнзуры; іх, разьяднаных на групы і партыі, яднала адна ідэя — ідэя незалежнасьці Беларусі. Разам з тым, умовы эміграцыі ня спрыялі літаратурнай творчасьці. Перашкаджаў і вымушаны занятак "дзеля хлеба надзённага", і малая колькасьць, а часта і нядоўгае жыцьцё пэрыядычных выданьняў. Толькі пералічаных прычын дастаткова, каб зразумець, чаму эміграцыйная літаратура дала паэзію высокай годнасьці, і значна менш — прозы.

З гістарычнай тэмай было яшчэ складаней: перашкаджала адсутнасьць базы гістарычных твораў — архіваў, дакумэнтаў, навуковых дасьледаваньняў. «У. Случанскі, — адзначае аўтар прадмовы да гістарычнай аповесьці "Драбы", — сваёй мастацкай душой шукаў у нашай

мінуўшчыне вялікіх патрыётаў, мудрых уладароў, слаўных падзеяў у гісторыі нашай Бацькаўшчыны, калі яна была вялікая і слаўная на ўсю Эўропу. Ва ўмовах эміграцыйнага жыцьця, калі чалавек ня можа карыстацца з архіваў, каб знайсьці патрэбныя матэрыялы, пошукі гэтыя былі сапраўды вельмі цяжкімі. Тэндэнцыйнае насьвятленьне гістарычных фактаў расейцамі і палякамі не задавальняла аўтара, а, наадварот, выклікала зь яго боку гостры пратэст і справядлівае абурэньне. А бесстароньніх дадзеных, адпавядаючых гістарычнай праўдзе, бракавала».(14)

Нягледзячы на аб'ектыўныя цяжкасьці, пісьменьнікі эміграцыі здолелі зазірнуць у мінулае сваёй Бацькаўшчыны і напісаць шэраг цікавых міфалагічных і гістарычных твораў. І нават стварыць новую форму мастацкага гістарычнага нарысу. Трэба адзначыць, што свой важкі ўклад яны зрабілі і ў навуковай распрацоўцы розных пытаньняў мінулага Беларусі. Тут і грунтоўная Скарыніяна, і гісторыя беларускага тэатру, і антыбальшавіцкія паўстаньні...

Усё зробленае на эміграцыі ня было простым працягам ужо існаваўшых у літаратуры традыцыяў. Апынуўшыся ў новым, прынцыпова не падобным да ранейшага, становішчы, літаратура павінна была знайсьці сродкі для кампэнсацыі ўжо адзначаных страт і для мастацкай перабудовы. У міфагістарычнай прозе гэта выказалася перш-наперш у вяртаньні да вытокаў культуры — міфалёгіі, у імкненьні ня проста выкарыстаць яе, а аднавіць, адрадзіць страчаныя часткі старажытнай беларускай міфалёгіі.(15) Гэта быў працяг у новых умовах і іншымі вобразнымі сродкамі ідэяў "Лябірынтаў" Вацлава Ластоўскага.

Адным з такіх мастацка-вобразных сродкаў сталася форма сказу з даволі шырокім выяўленчым дыяпазонам — ад чыстага фальклёру да фальклярызацыі сапраўдных гістарычных падзей. Зь ліку сказавых твораў найбольшую цікавасьць мае «Братчына. Сказ аб падарожніках Гюргію і Саўку і аб слаўным гаспадару полацкім князю Расьціславу» Уладзімера Случанскага. У аснову "Сказу" пакладзены эпізод з гісторыі Полацкага княства XII стагодзьдзя, аб якім апавядае Лаўрэнцеўскі летапіс. Вацлаў Ластоўскі прыгадвае гэты эпізод

у сувязі з характарыстыкай асаблівасьцяў дзяржаўна-грамадзкага ладу Беларусі ў тыя гады (нататкі «Зь Беларуска-Літоўскай мінуўшчыны»): «Беларускія землі ў пэрыяд яднаньня іх зь Літвой вызначаліся нязвычайна буйным разьвіцьцём дэмакратычнага ладу і агранічэньнем да мінімуму княжага аўтарытэту. Запраўдным сувэрэнным гаспадаром зямлі было веча <...>. Веча выбірала князя, веча і "паказвала яму пуць" (выганяла яго). Князь мог княжыць толькі са згоды веча. Полацкі князь жыў нават ня ў Полацку, а каля Полацку — у Бельчыцах, дзе жыла і яго дружына. У самы Полацак князі прыязджалі толькі на запрашэньне веча або са сваімі прыватнымі справамі».(16) Летапіс сьведчыць, што незадаволенае князем Расьціславам веча вырашыла забіць яго і дзеля гэтага запрасіла ў Полацак на братчыну да Сьв. Багародзіцы на Пятроў дзень. Князь прыехаў, але чамусьці "апрануўся ў броню пад вопратку". Верагодна, прыезд на братчыну ўзброенага госьця ня быў зьявай звычайнай, і ўражаныя загаворшчыкі не адважыліся на князя памкнуцца. А на другі дзень пачалі зноў вабіць яго да сябе, гаворачы: «Княжа, прыедзь к нам у горад, ёсьць нам з табою мова». Князь, папярэджаны дзецкім аб вечы ў горадзе і намеры схапіць яго, «вярнуўся назад і, сабраўшыся з дружынай у Бельчыцах, адтуль пайшоў палком (вайной), грабячы і разьбіваючы, да брата Валадара ў Менск».

Ул. Случанскі не адступае ад фактаў, якія падаюцца ў летапісе. Ва ўступе "Замест прадмовы" ён даволі блізка да тэксту пераказвае старонкі летапісу. Але ён надае тым, так-бы мовіць, прычынна-выніковым сувязям, што засталіся па-за летапісным тэкстам, зусім іншае гучаньне.

Героі «Сказу» Гюргій і Саўка яшчэ ў далёкіх краёх чулі многа нядобрага пра князя Полацкага. Аповяды вандроўных купцоў былі жахлівыя: князь — Ірад, кат і абдзірала. Зь цяжкім сэрцам вярталіся Гюргій і Саўка на бацькаўшчыну. Аднак паступова яшчэ ў дарозе ў іх вачох партрэт князя мяняецца з адмоўнага на станоўчы. Чым больш жаляцца купцы на князя, тым больш відавочна, што праўда на баку Расьціслава: «І дакуль зямля яго насіць будзе? Купцоў сумленных дзесяцінай аблажыў, а ізгояў і сьмердаў полуднікамі

частуе... За нашыя грошы кроўныя! Памятаеш, кум Васята, як пазалетась няўродзіца і голад наваліліся? Вось, думалася, зараблю дзе! Тры гумны засыпаных жытам меў...

— Як ня памятаць? Хіба што век не забудуся, як мне ўвесь торг з сольлю зьбіў... Каб ня “Яснае сонейка Расьціславушка”, дык і сёньня ня дзьве ладзьдзі вёў-бы, а два тузіны».(17)

Колеры тут, як і патрабуе жанр фальклёрна-рыцарскага сказу, строга разьмежаваныя: усе сьветлыя аддадзены князю і, зразумела (зноў-жа патрэбы жанру!), яго дачцы князёўне, а чорныя — купцом, якія асуджаюцца не за тое, што яны— гандляры, а таму, што ўвасабляюць антыдзяржаўныя інтарэсы.

Характэрная рыса ўсёй літаратуры эміграцыі — пасьлядоўная абарона прынцыпаў дзяржаўнасьці і асуджэньне ўсякіх праяў антыдзяржаўных індывідуальных і групавых інтарэсаў. Натуральна, гаворка ідзе толькі пра беларускую дзяржаўнасьць. Адсюль імкненьне ўсіх жанраў эміграцыйнай літаратуры намаляваць уладароў старажытных беларускіх зямель прывабнымі і як людзей, і як палітычных дзеячаў. Варта адзначыць, што, па зразумелых прычынах, такая пазыцыя ня была ўласьцівая беларускай савецкай літаратуры.

Затое нешта вельмі падобнае назіраем у расейскай савецкай літаратуры. Здавалася-б, такое самае ўзвышэньне дзяржаўнасьці, такое-ж самае прызнаньне другараднасьці інтарэсаў асобы ў параўнаньні з інтарэсамі дзяржавы. Але гэта толькі зьнешняе падабенства. На самой справе, з часоў бескампраміснай барацьбы з “усякім” нацыяналізмам расейская савецкая літаратура ўсхваляла і ўзвышала імпэрскія ідэалы, адмаўляючы права асобных нацыяў на выбар, які не супадаў з выбарам Дзяржавы. Усё гэта называлася патрыятызмам, які прыкрываў, на самой справе, імпэрскія амбіцыі: «Патрыятызм — вось галоўны крытэрый у ацэнцы дзеяньняў, думак і пачуцьцяў герояў гістарычнай літаратуры; патрыятызм мысьленьня аўтара — вось зыходны момант у разуменьні вартасьцяў і сацыяльнай карыснасьці яго творчасьці».(18)

І ў гэтым істотнае адрозьненьне ня толькі літаратуры эміграцыі, але і ўсіх вышэйпрыгаданых твораў беларускай літаратуры. Не ідэя "патрыятызму" кіравала беларускімі пісьменьнікамі, а імкненьне да кансалідацыі нацыі і яе незалежнасьці...

Да таго часу, калі купцы абрабавалі Гюргія і Саўку і кінулі іх у цёмную камору, нашыя падарожнікі ўжо зьведалі "праўду" купецкіх паклёпаў. Выпадкова, ратуючыся, яны даведваюцца пра намеры купцоў забіць князя, і ў іх ня ўзьнікае сумненьня, на чыім баку яны павінны быць. Пераапрануты Гюргій знаходзіць князя й папярэджвае яго. Таму князь, хоць й ня вельмі верыць перасьцярогам, усё-ж апранае кальчугу. Гюргій і Саўка зьбіраюць людзей і адольваюць забойцаў, нанятых купцамі. Свае ўчынкі Гюргій тлумачыць так: «Наслухаўся пра цябе, княжа, ад люду Полацкага пахвалы вялікія, што шчодры ты, літасьцівы, да люду ласкавы, справядлівы...». Як бачна, у сутыкненьні князя і веча аўтар на баку князя. Менавіта князь зьяўляецца выразьнікам інтарэсаў грамадзтва, дзяржавы. Такі ідэал: мудры, справядлівы, моцны валадар і абаронца свайго народу.

Сказы Уладзімера Случанскага (нам вядомы яшчэ ягоны вершаваны "Аброк Кіеву. Сказ аб Рацібору, тысяцкім Іскарасьценю") ня маюць спэцыфічна-сказавай моўнай афарбоўкі. Аўтар падае сказ як народную лягенду, ён нібы не стварае яе, а перадае ва ўласнай апрацоўцы захаванае народнай памяцьцю.

Значнае мейсца ў гістарычных творах эміграцыйнай літаратуры займаюць сны і ўяўленьні. Гэта тлумачыцца багатымі магчымасьцямі, якія адкрывае пісьменьніку такі мастацкі прыём.

Сны, памяць і ўяўленьні натуральна ўваходзяць у структуру беларускай гістарычнай прозы першай паловы XX ст. Рэальнае жыцьцё аўтараў гістарычных твораў было абмежавана і сьціснута незалежна ад іхніх жаданьняў, імкненьняў і волі ўмовамі тагачаснага ладу. Прымус, нагляд, вывіжоўваньне ўваходзілі ў прыватнае жыцьцё і творчасьць, у "*няспаньне*", тады як у *сьне* чалавек вызваляўся з-пад улады свайго часу, сваёй прасторы — прыходзіла адчуваньне волі і

вольнасьці. У Сьне чалавек вызваляецца і ўваходзіць у іншы сьвет, дзе рэчы мяняюць сваю субстанцыю. Сон зьяўляецца пераходам з аднаго стану быцьця ў другі, масточкам, які злучае дзённыя зямныя вобразы і незямныя нясёньняшнія, несучасныя ўяўленьні, прыносіць — ці ня ўпершыню — адчуваньне раскаванасьці, лёгкасьці, радасьці. Чалавек у сьне — такі, вызвалены. У сьне (будзем і надалей называць яго так умоўна) слабеюць дзённыя законы, чалавек вызваляецца ад прычыннай залежнасьці, сьціраюцца межы мінулага і сучаснага, сапраўднага і ўяўнага, магчымага і жаданага. Жыцьцё пашыраецца, падвойваецца, паглынаючы дзённую і начную рэальнасьць. Так нараджаецца сьвет, не абмежаваны трохмернасьцю. Так Сон становіцца завершаным мастацкім вобразам, формай літаратурнага хранатопу. Той мясьцінай, дзе скрыжоўваюцца прасторавыя і часавыя пэрспэктывы. Час набрыняе, робіцца амаль бачным, а прастора зьнікае ў часе, гісторыі, фабуле. Пры гэтым прыкметы часу раскрываюцца ў прасторы, і яна асэнсоўваецца і вымяраецца часам.

Ствараецца новая літаратурная форма, якую магчыма суаднесьці з бачаньнем сьвету мастаком сярэднявечча. Пісьменьнік, далёкі ад вобразаў мінуўшчыны, ня мае такога пачуцьця вечнасьці, калі прашчур — ня толькі бацька або дзед, калі твае продкі — Вітаўт і Ягайла, Давыд Гарадзенскі і Рагнеда, Кірыла Тураўскі і Ефрасіньня Полацкая...

Менавіта гэтае адчуваньне спрабуе данесьці да чытача Міхась Дубок у апавяданьні “Ці знаеш ты?..”.(19) Сон дазваляе герою ня толькі вярнуцца на Бацькаўшчыну і ўбачыць родныя мясьціны і краявіды, якія ён даўно пакінуў, але і атрымаць новыя веды з гісторыі свайго народу. Рыцар, які зьявіўся герою ў сьне і на казачным кані нясе яго над гарамі і марамі, задае пытаньні, ад якіх «чырваняй зайрдзеўся твар мой, ня ведаў я, што на гэта адказаць». Рыцар, пераканаўшыся, што герой ня ведае гісторыі ні сваёй Бацькаўшчыны, ні роднага гораду, але «не адцураўся бацькоўскага загону, не загубіўся на чужыне і толькі ня меў магчымасьці пазнаць сівой мінуласьці», апавядае яму і пра веліч беларускай мовы ў часы Альгерда, і пра Высока-Літоўск, і пра Івана Багданавіча Храбтовіча, празванага Літаворам.

Ня даць страціць веру ў будучыню сваёй краіны, ня даць забыцца пра сваё мінулае — галоўная мэта такіх твораў. І адзінае, што засталося пісьменьніку ва ўмовах эміграцыі, — летапіс, гісторыя, культурная традыцыя, памяць. Шматмернасьць сну напаўняе твор, пашырае рэальнасьць прамежкава-часавымі вымярэньнямі, вызваляючы яго ад трохмернасьці жыцьця і ўводзячы мінулае як чацьвёртае вымярэньне.

Часам такія творы набываюць казачную форму, там адбываецца зьмяшчэньне часавай пэрспэктывы. Герой (чалавек або народ, горад або рэч) жыве ў чароўным сьвеце. І паўсюль ён — і свой, і чужы, і далучаны да таямніцы, і неафіт, і чалавек бяз роду, і здраднік... — казачна-вольны чалавек у часе-прасторы. У гэтым, чацьвёртым вымярэньні, і зьяўляецца, выяўляецца Бацькаўшчына, Беларусь, краіна казак і легендаў — краіна сапраўдных герояў.

У апавяданьні Міколы Куліковіча "Мяндоўг"(20) аўтар выкарыстоўвае прыём уяўленьня, які фактычна зьяўляецца другім назовам сну. Чытач трапляе на сьвята ўтварэньня Вялікага Княства Літоўскага і чуе каранацыйную прамову «першага Літоўскага (Беларускага) караля й вялікага князя Мяндоўга»: «Народзе мой! Сягоньня дзень для нас надзвычайны, дзень сьвяточны... І не таму, што гэтую вось карону я, слабы муж, на галаву сваю ўсклаў... Дзяржава моцная хаваецца пад гэтай каронай, злучэньне ўсіх літоўскіх зямель, адзіная для ўсіх нас гаспадарка, што іншыя дзяржавы лічыцца прымушае, як роўны з роўнымі... Хавай-жа, мой народзе, карону, сымбаль гэты... у думках, у сэрцы... каб з радасьцяй, аддана за сваю Бацькаўшчыну змагаліся, жылі і нат' жыцьцё і кроў сваю злажылі, калі трэба...». Сьвята абвешчаньня вялікай дзяржавы, зайздрасьць, змовы, дзяржаўныя і сямейныя праблемы, мудрыя парады старога канцлера — усё гэта сьведчаньне галоўнага: вось дзе вытокі, так пачыналася жыцьцё тваёй дзяржавы. Пошук пачатку — наогул вельмі важная ідэя ўсёй эміграцыйнай думкі. Гэта, трэба адзначыць, зьвязана з адчуваньнем, якое дакладна сфармуляваў Юры Лотман: «Тое, што мае пачатак, — існуе. Таму тыя дзяржавы, што маюць пачатак (легенды аб

заснавальніках), супрацьстаяць тым, хто іх ня мае, як палітычна існыя — ня існым; тыя, што могуць назваць продка, палітычна існуюць».(21)

Усе гісторыка-міфалагічныя творы звычайна пазбаўлены бытавых падрабязнасьцяў, рэалістычных дэталяў. Гэта гістарычныя легенды, і менавіта адмаўленьне побытавай канкрэтнасьці надае ім характар узьнёсласьці, усхваляванасьці, той перакананасьці, што ўласціва народным паданьням, для якіх нібыта сам час адбірае толькі тое, што павінна застацца ў памяці народу.

Аднак гэта толькі некаторыя характэрныя асаблівасьці гісторыка-міфалагічнае прозы. Спэктар мастацкага ўвасабленьня жанру значна шырэйшы: ад уласна фальклёрнага, сказавага, да сымбалічнага, ад казачных рэмінісцэнцый на гістарычныя тэмы да філясафічных абразкоў. Жанравыя пошукі дэманструюць і апавяданьні, што падаюцца ніжэй. Адно зь іх — "Божая жалейка" — належыць Ніне Змагарцы, другое, "Паўбог", — Антону Адамовічу (?), трэцяе, "Справядлівы судзьдзя", напісаў Сымон Жамойда.

Рукапісы апавяданьняў перахоўваюцца ў архіве часапіса "Шыпшына" (БІНіМ).

Ніна Змагарка

## БОЖАЯ ЖАЛЕЙКА

Камяні ляжалі чародамі: зімныя, вільготныя, спакойна-нярухомыя. З боку сонцаўсходу паволі і неадхільна сунуўся вячэрні змрок. Нівы выпаралі дзённае сонечнае цяпло туманамі. Па калдобістаму, зьезджанаму сваймі людзьмі і чужакамі-акупантамі, шырокаму з прысадамі адвечнаму крыўскаму гасьцінцу, сваімі старымі і ўжо амаль засыпанымі пылам вякоў сьлядамі, ішлі аглядаць Божы Край — Крывіччыну — Бог із Чортам.

Чорт хваліўся: "У мамэнт зраблю дудку".

Зламаў ён лазіну і пачаў па яе кары стукаць пажоўклаю косьцяй мерцьвяка.

Бог падышоў да дарагога крывічу і любага здавён дрэва

— бярозы, зырваў зь яе зялёны лісток і падняў яго ўгару на вецер. І загучэла ведамая ад вякоў музыка: лісток серабрыста гучэў, бярозка дрыжэла і сьпявала, а ў бярэзьніку мілагучна-ціхутка бомкалі званочкі, і ўсе лісты бярозак гучэлі ў тон лісточку на вятру.

Чорт мучыўся над карклаватай лазовай галінай і зь ягонае працы па якімсь часе выйшла гэтак і званая да сяньня народам чортавая сьвістулька, якая давала піскліва-хрыпаваты, няпрыемны гук.

І сталіся з таго часу лісты бярозы звацца народам Божай жалейкай. Крывіцкія-ж беразьнякі і бярозавыя лясы Віцебшчыны пяшчотна пяюць на вятрох сусьвету як срэбраныя званочкі, ад прадвеку гісторыі і да скону выгнаньня крывіцкага люду. Крывічанін, верны сын свайго краю, як і гордыя крывічанкі, нашчадніцы няўмірушчай Рагнеды, пакахалі беразьнякі і знаходзяць у іх божым гуку супакой і ачышчэньне ад турботаў штодзённых. І сталіся душы крывічанаў чыстымі і нясплямленымі, як і гук і бель бярэзьніку. А бярозка вечна гучыць, нагадваючы нам сапраўднае нашае мейсца і няўміручыя песьні нашага народу. І куды-б ні закінуў крывічаніна кон, што-б ён ні рабіў на Бацькаўшчыне ці на далёкай дзесь чужыне, усюды яму спадарожнічае мяккае гучэньне роднае бярозкі і ціхі сьпеў ягонае вернае роднаму краю душы.

Бог перамог Чорта. І ў вячэрнім змроку, агарнуўшым тымчасам увесь край, ляжалі сьцюдзёныя, вільготныя камяні, зачыніўшы свае каменныя павекі. Шамацелі сваім серабрыстым гукам беразьнякі, таямніча баіў казку стары пасівелы бор, як медзь, цяжка шапацелі налітыя, бы золатам, нівы збожжа, а зоркі з свае яснае бязьмежнае вышыні далучалі ў сугуччы сваё вабячае да сьвятла мігаценьне да сьпеву зямлі. А па-над зямлёю хвалявала паветра векавечная песьня крывічанскай душы. Хата перагуквалася з хатаю, узгорак з узгоркам, беразьняк зь беразьняком. Галасы плылі ўвысь, гушкаліся, хвалявалі, гонячы Чорта, гонячы з крывічанскае зямлі чужака-акупанта, які захапіў Крывіччыну і сам адчувае, што ня ўтрымацца яму тут доўга. І акупант нават чуў і разумеў, як над папялішчамі і надмагільнымі ўзгоркамі, дзе

ляжалі косьці бязьвінна закатаваных сыноў і дачок Крывіччыны, вырасталі бярозкі і сьпявалі песьні славян, тварылі новыя сказы аб загінуўшых верных і чыстых крывічанскіх душах. А ў крывічанскіх мужоў, што вярнуліся зь сусьветнае вандроўкі, гэтыя сказы выклікалі дзейнасьць, а цяглiцы рук мацаваліся сілай дзеля будовы новага жыцьця.

Бог перайшоў праз Крывіччыну і даў ёй сваю нязмоўкную няўміручую песьню.

Антон Адамовіч

## ПАЎБОГ

(Мініятура)

*Узвышэнцам,*
*нацдэмам і крывічом*
*гэты хвілёвы ўзьлёт душы*
*ў дар прыносіць*
*Аўтар*

Ужо даўно прагналі яго людзі. Ён кінуты ў вязьніцу, вільготныя муры якой ня ведаюць болю, бо боль быў іхняй абыдзеншчынай.

Ён сотні год, акуты ланцугамі, ляжыць за сьценамі муроў. І нат' рыначныя балбатуны ня маюць добрага слова, якое-б, магчыма, узьняло яго на неба.

З запалам і няўпыннасьцю крата я пачаў шукаць каранёў і канца грахоў вялікага злачынца, каб пераканацца, як нельга жыць чалавеку. Я стала вучыўся са злоўчынкаў іншых, бо жадаў, каб мяне звалі і лічылі добрым.

І ішоў да разумных жанок ды разважных мужчынаў, гадзінамі слухаў і тыднямі чакаў, пакуль мяне выслухаюць магутныя сьвету нашага, бо іншыя не маглі сказаць, што дрэннага зрабіў выступнік.

І калі нарэшце правадыры дазволілі мне аблізаць іхнія палітычнай каростай пакрытыя рукі, я, дрыжучы ад страху, папытаўся аб выступах вялікага злодзея.

— Ён грэшны, бо віною ўсяму, што рабілася і казалася дрэннага і шкоднага правадырамі.

І зразумеў я, што розуму ня вучацца ў разумных, а мастацтву дурнотаў не навучыць нават цар дурняў.

І забрыў у нейкае логава "прапалых". Там гаманіў з

натоўпам п'яных жанок і карміўся іхняй мудрасьцю, як згаладалы воўк. І жанкі гэныя ўжо ня знalі граху.

Яны ўперліся на мяне, як на дурня дурняў, што я ня ведаю грахоў вялікага выступніка.

— Няма вялікшага грэху, калі чалавек ня хоча брысьці па таму-ж балоту разам із стадам. А гэты грэшнік нат' адмовіўся ад нашых боляў і забыўся на нашыя радасьці. Ён зачыніўся за мармуровымі сьценамі, а сваіх ганцоў разаслаў па ўсім сьвеце. І былі яны лепшымі зь лепшых. Калі імчаліся яны па нашых заняпалых гонях, дык жалю не знаходзілі ні да кульгавага старца, ні да малюткага дзіцятка. Замест рук яны мелі дарагое каменьне, а замест мовы — плыўкі шоўк.

І з ранаў, атрыманых у бойках, ліліся рубінавыя пэрлы замест крыві. Аднойчы схіліўся адзін зь іх, каб падняць статкам стаптаны васілёк нашых гоняў, дык з вачэй у яго ліліся пякучыя кроплі сапфіраў. І на шчытох сваіх яны мелі абраз прыгожае жанчыны, якая стаяла голаю, а побач яе вопратка была па кавалках падзёртая ў колькіх мужчынаў дзікога пагляду. І гэты, хоць і ня зусім прыстойны абраз жанчыны, вабіў сваім харaствам кажнага, хто быў углядзіўшыся ў яе.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Пераможаныя ворагі заставаліся ляжаць у сьвінячым гноі, а іхнія чорныя душы падымаліся ў паветра, як каркаючыя вароны: нас перамагла іхняя сьцюдзёная гіронія.

Прыбыўшы да свайго правадыра, сьмелыя зьвястуны пакрывалі свае коні пялёсткамі шыпшыны, і нястрымныя ў бойках коні рабіліся спакойнымі.

Сьмелыя ваякі ішлі за мармуровыя сьцены да сваіх прыгожых жанок, якія чакалі на іх бяз словаў дакору і ўздыхаў. І тады ва ўладароў забранага краю прачнулася абражаная годнасьць. Яны, ускочыўшы на шыі разьюшаных быкоў, кінуліся ў пагоню за зьнікаючымі ў косах узыходзячага сонца коньнікамі.

Прыгожыя зьвястуны спыніліся на першым раздарожжы і клікалі галасамі, у якіх чуліся гукі арфы:

— Наш правадыр Паўбог вітае вас сьмехам і абразай. Мы — ягоныя запраўдныя сны. Наш правадыр — Паўбог.

А затым яны зьнікалі ў дзікіх скоках коняў.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Гэтак міналі гады, аж пакуль не ўзьняліся ўсе нікчэмныя і маленькія духі. Нанятыя і прадажныя кавалі закулі ў ланцугі аднаго па адным прыгожыя сны Паўбога і разьюшаны натоўп аблажыў ягоны мармуровы замак.

Год у год яны аплёўвалі брыльянтавыя вежы замку, пакуль цяжар брудных пляўкоў не ўламаў зьзяючую пэрлавую столь. Брудныя падкаваныя боты чорнага натоўпу збэсьцілі і пакрышылі мармуровыя сьцены. Паўбога паланілі горды ліслівых і хітрых падхалімаў-лыжнікаў.

Ён стаўся грэшнікам, бо ягоныя сны былі занадта прыгожымі.

Ужо гады трымаецца ён сваімі і чужымі снамі ў вогкіх скляпеньнях за цёмнымі сьценамі на абтоку аблогі. Яму задэкляраваная свабода ў той дзень, калі ён зрачэцца сноў сваіх і імя свайго Паўбога.

Так я даведаўся яго грахоў цяжкіх і цяпер жадаў хоць крыху выкупіць віну яго.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Калі пачынаюцца цёмныя восеньскія ночы і ў морах вар'яцее нячысьцік вод, я забіў цьвікамі дзьверы сваёй хаткі, каб сесьці ў карыта — плысьці цераз мора, дзе, як чуў, знаходзяцца яшчэ нашчадкі і непадкупныя пасьлядоўнікі майго Паўбога.

Як і ўсім грэшным, гэтак і мне на долю выпала больш шчасьця, чымся ўчыну. У цемры паўночы чужыны я адчуў, што хвалі ашалелага мора перакідаюць маё карытца праз сьцены высокага муру. І нацягнуўшы чорную пакрыўку, я ўсё далей, далей ішоў вільготнымі скляпеньнямі. І раптам зачапіўся за нешта цьвярдое ды спатыкнуўся, і ў гэтую часіну я пачуў твой горды голас.

— Хоць сотку покрывак ты нацягнуў-бы на свой твар, я пазнаў-бы цябе ў найглыбейшай цемры духу. І ты адзін із маіх сноў.

І борзда, борзда ты адчуеш, што ў лахманы твае вопраткі ўжо чапляюцца горды сьвятошаў, якія самі ёсьць найвялікшаю абразаю сьвятому.

Ты хочаш ведаць, чаму я стаўся Паўбогам. На сваіх плячох я нёс калісь нашую праўду натоўпам рабоў. А яны на каленях маліліся ярму. І зразумеў тады я, што і асёл бяз ношы нешчасьлівы. Я зразумеў, што рабом ёсьць толькі той, хто знак раба носіць на сэрцы. Запраўдны чалавек памірае — рабом ня станецца ніколі. І ходаўся я з грэхам народу свайго, я ходаўся зь няволяй, роспаччу і нячынам. Супроць усяго благога ўва мне ўзьнялася боская ўпорыстасьць — я быў запраўдным Паўбогам. І праклёнам сталіся мае рукі і ногі. Усё, праз што праходзіў я, поўнілася жудаснай пакутай. Я быў запраўдным Паўбогам, бо ўва мне жыла толькі боская кара.

Мінаў вось гэтак час. Мне сталіся чужымі і добрыя і дрэнныя ўчынкі. І нарадзіўся я ізноў для хараства. І не разумеў я Бога, які здольны ствараць выродаў для сэрца пяшчотнага. Схаваўся я за сьцены мурмуровыя, каб ня бачыць абыдзённых клопатаў людзей, якія адбіраюць самі-ж ад свайго быцьця ўсё прыгоства жыцьця-змаганьня.

Але змарылася маё сэрца. Як і раней, я зваў сябе Паўбогам, каб іншыя ня бачылі маё сэрца, якое ў болю выла гучней за параненага ваўка. І боль умее маўчаць сфінксам у пустэльні.

І цень сваю Паўбога, як жудасную здань, я гнаў у замак. Там мой цень цалавалі ногі, бо ўжо ня бачылі мяне самога, схіленага ля плоту і гладзіўшага лоб цялятка, у вачох якога нявіннасьць сьвеціцца.

Яны ня бачылі мяне ў радох калекаў, як цалаваў я вільготны жабін рот, бо яе стаптаў мой бот.

Ад жабы я маліў дараваньня. І пяшчотай-ласкаю спавіліся мае рукі і ногі. Усё, праз што праходзіў я, дрыжэла ў схліпах радасьці. Я быў запраўдны Паўбог, бо ўва мне было толькі каханьне Бога.

Але гэткага мяне ня бачылі, бо людзі бачаць толькі тое, што было, — і ніколі тое, што мы маем.

І мусіў я ісьці на раздарожжы плакаць, мага тады адчыніліся-б ім вочы. Я, магчыма, і пайшоў-бы, але тады празь мяне праносілася завіруха ўпартасьці.

— І ня пытай, чым здаешся ты іншым, але заўсёды памятай, чым ты ёсьць для самога сябе. І гэтак мадзею я тут,

як Паўбог. Мае грахі мне людзі не даруюць. І добра робяць так яны. І зьненавіджу іх, бо пашкадаваць мяне ня змогуць іхнія рукі. Яны патрэбныя толькі нікчэмным грэшнікам. А я — Паўбог — ужо дараваў сабе.

Тую часіну, калі я ходаўся з грэхам нявольніцтва і сябеганы, калі я нарадзіўся для прыгоства ізноў, я выкупіў ужо тым пацалункам у вільготны рот жабы.

8 лістапада, 1952. Бруклін.

Сымон Жамойда

## СПРАВЯДЛІВЫ СУДЗЬДЗЯ

Прыблізна ў апошнія гады дзясятага стагодзьдзя, у княжыя часы Рагвалода і ягонае дачкі Рагнеды жыў у Полацку вельмі багаты купец маскоўскага паходжаньня па прозьвішчу Сволач. Прозьвішча гэтае ў той час яшчэ нічога ня мела супольнага з сучаснай лаянкай.(22) Сваім багацьцем, а адначасна і скупасьцяй, быў ён чутны ня толькі ў самым Полацку, але і далёка па-за межамі Полацкага княства.

Аднойчы, варочаючыся з далёкага таргова-меннага шляху, аж з Грэкіі, і распрадаўшы цэнныя скуры дзікіх зьвяроў Беларусі, вёз ён з сабой вялікі капшук рубанцаў золата, тагачаснай заменнай валюты міжпляменнага гандлю. Мінуўшы княжыя межы і апынуўшыся ўжо на землях князя Полацкага, дзе таргова-менныя шляхі спэцыяльна ахоўваліся княжымі дружыньнікамі, купец Сволач, задаволены праведзеным гандлем з грэкамі, як і шчасьлівым даездам да Рагнедавых зямель, згадзіўся пагуляць у спатканьні, якое ладзілі яму тамтэйшыя бяднейшыя купцы.

Не атразьвеўшы добра пасьля папойкі, таўстабрухі, нізенькага росту купец загадаў слугам далейшы цяг язды ў Полацак. Скураны, выпханы рубанцамі золата капшук, работы смаленскіх мастакоў, прымацаваў, не давяраючы нікому, пры сваім сядле. Каб скараціць доўгія шляхі, павярнуў свой караван убок і польнымі, пастушымі дарожкамі цягнуў далей. Тым больш ведаючы, што нападу на гэтых землях ужо ня будзе.

Ды толькі, злажыўшы князю дарункі і ўмоўленую дань,

раптам сьцьвердзіў, што мяшка з грашыма ня стала. Прывязаны падхмеленай, няўпэўненай рукой мяшок рассупоніўся, адарваўся ад сядла і згубіўся ў дарозе. Тым горш, што ехалі лугамі, польнымі дарожкамі, дзе толькі пастухі і то рэдка праганяюць свае статкі. Калі-б згубілі дзесьці на шляху, то, бязумоўна, дружыньнікі знайшлі-б і князю перадалі.

Сволач, сумуючы па страце золата, якога было роўна 3000 залатых рубанцоў, ніяк ня мог аджалець. Пасьля доўтага раздумваньня паведаміў княжы двор і бліжэйшыя аселішчы, што за знойдзенае даруе палову згубленага ў мяшку золата.

Шмат каму хацелася збагаціцца гэтымі грашыма, бо сума немалая, хацелася знайсьці капшук і атрымаць палову. Шмат хто й кінуўся шукаць страты.

Бедны пастушок Рыгор чуў аб усім гэтым, але яму нават і ў галаву такія думкі ня лезьлі пра ўзбагачэньне-жаднасьць і багацьце. Было пад вечар, калі, зганяючы свой статак, убачыў камень. Хацеў узьлезьці на яго і агледзецца, ці дзе жывёла ня згубілася ў траве. Ды толькі, ступіўшы на бугор, пераканаўся, што гэта і ёсьць згубленыя купцом грошы.

Не адкладаючы на апасьля, гэтага-ж дня ўскінуў мяшок з золатам на плечы і павалок аддаць купцу.

Убачыўшы ў цэласьці 3000 рубанцоў золата, Сволач аніяк ня мог адшкадаваць тых слоў, якія ён абяцаў знаходчыку.

— Золата ў парадку, але дзе цэнныя камяні? — закрычаў купец. — За тое, што ты іх прысабечыў, не атрымаеш узнагароды ды яшчэ ў падвал князеўскі пойдзеш.

Рахманы Рыгор як мог, так апраўдваўся перад купцом. Яму і слоў тут не хапала, бо, цэлы век прабыўшы ля скаціны, ня ведаў, што сярод людзей ёсьць і такія злыдні.

Купец, пагражаючы катаваньнем, паведаміў князеўскі двор аб кражы Рыгорам дарагіх камянёў.

Князь Рагвалод, а пераважна ягоная дачка, княжна Рагнеда, слаўная із зважнасьці і справядлівасьці ў жыцьці, жадаючы пакараць віноўнага, узялася правясьці судовы разгляд.

Сабраліся ўсе старшыны гораду і пры запаленым вялікім вогнішчы Рагнеда, заняўшы ганаровае мейсца судзьдзі,

паклікала на перaслух купца. Сволач вылажыў ужо ведамыя нам свае абвінавачваньні.

Прывялі закаванага ў ланцугі пастуха Рыгора.

Рагнеда, поўнасьцю выслухаўшы абодвух, загадала раскаваць Рыгора і такі вынесла прысуд.

— Ты, Сволач, цьвердзіш, што ў капшуку тваім было 3000 рубанцоў золата і дарагія камяні, якіх лік ня ведамы табе. Аднак-жа ў капшуку, які знайшоў пастух Рыгор і перадаў табе, каштоўных камянёў ня было. Значыцца, капшук з рубанцамі золата ня твой. Уласнасьць гэта каго іншага, і ты да яе ня маеш ніякага права. Капшук з золатам застанецца ў пастуха так доўга, пакуль ня знойдзецца ягоны сапраўдны ўласьнік. А ты, Сволач, чакай, аж знойдуць твой капшук з рубанцамі і камянямі.

З тых часоў прозьвішча маскоўскага купца Сволач увайшло ў лаянку для характарыстыкі хлусьлівага і прагнага чалавека.

1 Липатов А. В. Исторический роман: общие закономерности и национальная специфика. "Славяноведение", 3, 1933, с.19.

2 Кузьняева Соф'я. Нацыянальнае адраджэньне і нацыянальная сьвядомасьць беларусаў у першай палове XIX ст. "Беларускі гістарычны агляд". Том 1. Сшытак 1. Менск, лістапад 1994, б.55.

3 Пра гэта: В. Сянькевіч. Вытокі беларускай нацыянальнай гістарыяграфіі і "Наша Ніва". "Запісы БІНіМ'а", 19, 1989, б. 8-25.

4 Дунін-Марцінкевіч В. Творы. Мінск, 1984, б. 300.

5 Гарэцкі М. Гісторыя беларускай літаратуры. Мінск, 1992, б.176.

6 Сянькевіч В. Вытокі..., б. 14.

7 Бочаров А. Свойство, а не жупел. "Вопросы литературы", 5, 1977, с. 100.

8 Ластоўскі В. Творы. Мюнхэн, 1956, б. 14.

9 Гачев Г. Национальные образы мира. Москва, 1988, с. 39.

10 Юрэвіч Л. "Лябірынты" Вацлава Ластоўскага. Спроба разгорнтага камэнтара выбраных мясьцін. "Запісы БІНіМ'а", 21, 1994, б. 152-166.

11 Гулыга А. Миф и современность. "Иностранная литература", 2, 1989, с. 170.

12 Ліставаньне Юркі Віцьбіча захоўваецца ў Архіве Фундацыі імя Пятра Крэчэўскага.

13 Некрич А. Наказанные народы. "Нева", 10, 1994, с. 254.

14 Случанскі У. Драбы. Гістарычная аповесьць. Мэльбурн, 1958, б. 5-6.

15 Гл.: Л. Юрэвіч. "Нам палаць, а ня цьміць!": Сяргей Хмара. "Вяртаньня маўклівая споведзь. Постаці творцаў беларускай гісторыі ў кантэксьце часу". Менск, 1994, б. 285-291;
Л. Юрэвіч. "Русалчына бальляда": міталёгія й дэманалёгія ў паданьнях С. Каўша (У пошуках міталягічных гарызонтаў беларускай літаратуры). "Запісы БІНіМ'а". 21 Т, 1994, б. 138-151.

16 Ластоўскі В. Зь Беларуска-Літоўскай мінуўшчыны. "Беларускі Сьцяг", 4, жнівень-верасень 1922.

17 Усе цытаты даюцца па выданьню: Ул. Случанскі. Братчына. Сказ аб падарожніках Гюргію і Саўку і аб слаўным гаспадару полацкім князю Расьціславу. Мэльбурн, 1991.

18 Юдин В. Человек. История. Память. М. 1990, с.3.

19 "Віці". Часапіс маладога пакаленьня, 5 і 6, 1953-1954.

20 "Віці". Часапіс маладога пакаленьня, 4, 1953, б. 10-13; 2, 1955, б. 21-23.

21 Лотман Ю. О моделирующем значении понятий "конца" и "начала". У кн.: Texte des sowjetischen literaturwissenschftlichen Strukturalismus, Munchen, p. 308.

22 "Сволаччу" называлі просты люд, які склікалі, "звалакалі" ў апалчэньне пры неабходнасьці абароны ад ворага.

# Заходні моўны ўплыў на беларускія гаворкі

А. А. СТАНКЕВІЧ
Гомельскі універсытэт

Лексічная сыстэма, якая зьяўляецца самай рухомай часткай народна-дыялектнай мовы, пастаянна папаўняецца як за кошт разьвіцьця ўласных дэрывацыйных сродкаў, так і ў выніку запазычваньня з іншых моваў.

Лексіка іншамоўнага паходжаньня, засвоеная беларускімі гаворкамі на працягу ўсяго іх гістарычнага разьвіцьця, адлюстроўвае разнастайныя сацыяльна-палітычныя, гандлёва-эканамічныя і культурныя зносіны беларусаў з іншымі народамі.

У нашым дасьледаваньні было прааналізавана звыш 3000 лексічных адзінак іншамоўнага паходжаньня народна-дыялектнага ўжытку. Асноўным крытэрыем адбору фактычнага матэрыялу зьявіўся рэгіянальны характар запазычаньняў — у рабоце аналізаваліся словы, якія адсутнічаюць у літаратурнай мове або маюць пэўныя фармальныя ці сэмантычныя адрозьненьні ад сваіх нарматыўных адпаведнікаў.

Як паказаў статыстычны падлік, больш чым палову з прааналізаваных запазычаньняў /64,5%/ складаюць словы, засвоеныя з польскай мовы /32,4%/ або праз яе пасрэдніцтва /32,3%/. Сярод слоў, запазычаных праз польскую мову, пераважаюць германізмы /45%/ і лацінізмы /32,6%/. Даволі значную групу ў агульным складзе дыялектных запазычаньняў утвараюць балтызмы /16,4%/. З іншых моў засвоена параўнальна нязначная колькасьць слоў — 18,6%.

Названыя лічбы адлюстроўваюць значны заходні моўны ўплыў на лексічную сыстэму беларускіх гаворак, у першую чаргу з боку польскай мовы.

Беларуска-польскае моўнае ўзаемадзеяньне мае даўнюю гісторыю. Як вядома, у складзе гістарычнага полілінгвізму, характэрнага для старабеларускай мовы, найбольш актыўным было «беларуска-польскае двухмоўе, якое працягвалася амаль чатыры стагодзьдзі».(1) Гэта было выклікана шэрагам фактараў, — узмацненьнем ваенна-палітычнага саюзу Вялікага княства Літоўскага і Польшчы пасьля Крэўскай уніі 1385 г., устанаўленьнем важнейшых дзяржаўных інстытутаў па польскім узоры пасьля Люблінскай уніі 1569 г. і, больш за ўсё, забаронай беларускай мовы ва ўстановах ВКЛ пастановай Варшаўскага сойма 1696 г.

Працяглае гістарычнае беларуска-польскае моўнае ўзаемадзеяньне абумовіла выключную перавагу паланізмаў над запазычаньнямі з іншых моў у лексічным складзе старабеларускай мовы.(2) Значная частка паланізмаў і слоў, засвоеных праз пасрэдніцтва польскай мовы, была запазычана народна- дыялектнай мовай і захавалася ў ёй з даўніх часоў.

Адзначанае гістарычнае ўзаемадзеяньне падмацоўвалася ў далейшым больш позьнімі кантактамі, як зьнешнімі, паміж беларускай мовай і польскай у яе літаратурнай і размоўнай формах, зьвязанымі з тэрытарыяльным суседзвам Беларусі і Польшчы, так і ўнутранымі, паміж беларускімі гаворкамі і польскім пэрыфэрыйным дыялектам /«пальшчызнай крэсовай»/ і больш дробнымі астраўнымі гаворкамі, носьбітамі якіх зьявіліся групы польскага насельніцтва, што ў розныя часы мігравалі на Беларусь і мелі як кампактнае, так і дыспэрскае расьсяленьне на яе тэрыторыі.(3)

Такія разнастайныя і працяглыя беларуска-польскія моўныя стасункі абумовілі функцыянаваньне ў лексічнай сыстэме народна-дыялектнай мовы значнай колькасьці паланізмаў, розных па часе і шляхох засваеньня, тэрыторыі распаўсюджаньня, сфэры ўжываньня.

Самую вялікую групу сярод іх складаюць лексічныя паланізмы, якія ня маюць літаратурных адпаведнікаў. Гэта:

а) назовы асобы паводле сацыяльнага становішча, роду заняткаў, асаблівасьцяў паводзін, рысаў характару: **абываталь** «грамадзянін» /СПЗБ/, абуваталь «заможнік» /СГЦР/ < пол. obywatel; **белаглова «жанчына наогул»** /Нас./ < białogłowa;

**вужэлык** «маленькі, вельмі рухавы чалавек, пралаза» /ЗНС/ < wyżelek; **давуцца** «камандзір, начальнік, палкаводзец» /СПЗБ/ < dowódca; **даматур** «дамасед» /Нас./ <domator; **ошуст, вошуст** «ашуканец» /СПЗБ, ЗНС/ < oszust; **цурка** «дачка» /НСЛ/ córka;

б) назвы канкрэтных прадметаў, у тым ліку — адзеньня і яго частак: **вылогі** «барты ў адзеньні» /СПЗБ,МММГ-70, СГЦР/ <wyłogi; **галька** «споднявя жаночая спадніца ці доўгая кашуля без рукавоў» /СПЗБ, БДС, Сцяшк., СГЦР/ < halka; тканіны: **парыск** «паркаль» /МДСГ/ < paryski; упрыгожваньняў: **аброначка** »пярсьцёнак» /СПЗБ/ < obrączka; абутку: **трэпы** «басаножкі» /Цых./, «даўні сялянскі абутак на скураной або драўлянай падэшве», «стаптаны, зношаны абутак» /СПЗБ/ < trepy; хатніх рэчаў: **вор** «мех» /Нас., Сцяшк./ < wór; **генцар, генцёр, генцюр** «вялікі буталь, звычайна аплецены» /ДСБ/ < gęsior; **мернік** «градусьнік» /Сцяшк., Сл./ < miernik ; **пляцак, пліцак** «руказак» /СПЗБ, ДСБ/ < plecak; **столак** «табурэтка» /НЛС, Бяльк./, «зэдлік» /СПЗБ, Цых./ < stołek; прыстасаваньняў і прылад працы: **вярцэмак** «мятла, таўкач» /ЗНС/ wercimak; **дронг, дронк** «ручка, жэрдка, драўляная засаўка, завеса» /Сцяшк., СПЗБ, СПЗБ/ < drąg; **шыдэлак, шыдэлко** «прылада для вязаньня карункаў» /Сцяшк., Янк., Мат./ < szydełko; ежы, прадуктаў харчаваньня: **вандзонка** «вяндліна» /СПЗБ, СГЦР/ < wędzonka; **галярэта** «халадзец, квашаніна» /СГЦР,СБК,220/ < galareta; **ляндрынкі** «ледзяянцы /СПЗБ/ < landrynki; **мончка** «цукар-пясок» /Сцяшк., Цых./ < mączka і інш.;

в) назвы дзеяньняў: **адпэндзіць** «адправіць» /Шат., МММГ-74/ < odpędzić; **валаць** «клікаць, крычаць» /Нас., СПЗБ, СГЦР/ < wołać; **вальчыць** «ваяваць, сварыцца, буяніць» /СПЗБ/ < walczyć; **вонпіць, вонтпіць** «слухацца, баяцца» /ТС/. «паважаць» /СПЗБ/, «непакоіцца, сумнявацца» /Нас./ < wątpić;

г) адцягненых паняцьцяў: **абэцадло** «азбука, алфавіт» /Нас./ abecadło; **блонд, блэнд** «памылка» /Сцяшк./ < błąd; **вархал, вэрхал** «шум, лямант, гвалт» /Нас., Касп., Яўс./ < warchoł; **веле, веля, велё** «шмат, многа» /Сцяшк., Цых., СПЗБ/ < wiele; **мітрэнга, мітрэнка, мітрэга** «перашкода, неспакой» /Нас./, «шум, хваляваньне, турбота» /НС, ЗНС, Янк., І, СПЗБ/ < mitręga і інш.

Асобныя лексічныя паланізмы называюць прыродныя зьявы — флоры: **бэткі** «усе добрыя грыбы, акрамя белых» /ДСБ, СПЗБ/ < betka; фаўны: **бонк** «авадзень» /СПЗБ/ < bąk; **вашка** «страказа» /СПЗБ/ < ważka; **велерыб** «кіт» /Нас./wieloryb; нябесныя сьвяцілы: **гвязда** «зорка» /СПЗБ, Сцяшк./ < gwiazda; час: **серпень** «жнівень» /СПЗБ/ < sierpień; **стычэнь** «студзень»/СПЗБ/ < styczeń; зямную паверхню: **выспа, вуспа, віспа** «пясчаны востраў» /СПЗБ, ТС/, «грудок, высокае пясчанае месца» /СПЗБ/, «гурба пяску» /СГЦР/ < wyspa; **трэньсава** «дрыгва» /СБК, 43/ < trzęsawisko.

Побач з лексічнымі ў беларускіх гаворках ужываецца вялікая колькасьць фанэтычных і словаўтваральных паланізмаў. Фанэтычныя паланізмы захоўваюць асобныя рысы фанэтыкі польскай мовы і маюць нарматыўныя адпаведнікі. Яны адлюстроўваюць польскія насавыя галосныя ą ę: **абрэнч** «абруч» /ДСЛ/ < obręcz; **рэнка** «рука» /СБК, 157/ < ręka; **гарончка** «высокая тэмпэратура, тыф, грып» /СПЗБ/ < gorączka; **мондры, мэндры** «разумны, мудры» /СПЗБ, ДСБ/ < mądry; няпоўнагалосьсе: **агроднік** «агароднік» /СГЦР/ < ogródnik; **млека** «малако» /СПЗБ/ < mleko; галосны о: **алувак** «аловак» /СПЗБ/ < ołowek; **буль** «боль» /СПЗБ/ < ból; спалучэньні dl: **відлы** «вілы» /СПЗБ/ < widły; **мадлітва** «малітва» /СПЗБ/ modlitwa; rz: **вангош** «вугор» /Сцяшк./ węgorz; **тваж** «твар» /СПЗБ/ < twarz і інш. Некаторыя паланізмы захоўваюць націск этымонаў: **аранжовы** «аранжавы» /Сцяшк./ < oranżowy; **бранзовы** «руды» /НСл/ < bronzowy; **гранатовы** «цёмна-чырвоны» /СГЦР/ < granatowy; **зготоваць** «згатаваць» /НСл/ < zgotować.

Словаўтваральныя паланізмы захоўваюць афіксальныя элемэнты мовы-крыніцы: **адзінак** «адзіны ў бацькоў сын» /СПЗБ/ < jedynak; **дванасьця** «дванаццаць» /НСл/ < dwanaście; **гаспося** «гаспадыня» /СГЦР/ < gosposia; **куповаць** «купляць» /СБК, 408/ < kupować; **нагрода** «узнагарода» /СПЗБ/ < nagroda; **ліпяц** «ліпень» /НСл/ < lipiec; **татусь** «тата, бацька» /Сцяшк., Цых./ tatuś.

Ад словаўтваральных паланізмаў, запазычаных з польскай мовы, неабходна адрозьніваць кантамінаваныя формы, утвораныя пад уплывам польскіх асноў, але пры

дапамозе беларускіх дэрывацыйных сродкаў: **млечнік** «адуванчык» /СПЗБ/ < mlecz + малочнік; **ганшчар** «гушчар» /НСл/ < gąszcz + гушчар; **падружа** «падарожжа» /НСл/ < podróż + падарожжа або ад беларускіх асноў па прадуктыўных мадэлях польскай мовы: **прасавідла** «прас» /СПЗБ/ < прасаваць + суф. -idł-; **прыпыніска** «прыстанак» < прыпыняцца + суф. -isk-; **сырызна** «нясьпелыя ягады, фрукты» < сыры + суф. -izn- /СПЗБ, МММГ-74/ і інш.

Беларуска-польскае моўнае ўзаемадзеяньне, працяглае па часе, актыўнае і разнастайнае па форме, аказала ўплыў на ўсе групы беларускіх гаворак, але з рознай ступеньню інтэнсыўнасьці. Як паказвае лінгвагеаграфічны аналіз паланізмаў, асноўная іх маса адносіцца да арэалу паўночна-заходніх гаворак, прычым, сканцэнтраваны яны на захадзе Беларусі, у прыгранічнай этнакантакнай зоне. У іншых беларускіх гаворках функцыянуе значна меншая колькасьць паланізмаў, як правіла, даўніх і адаптаваных на беларускай моўнай глебе.

Названыя вышэй паланізмы запазычваліся ў беларускія гаворкі ў розныя гістарычныя пэрыяды. Неабходна адзначыць як непасрэдныя крытэрыі ўстанаўленьня іх храналогіі /фіксацыю ў розных пісьмовых крыніцах/, так і ўскосныя сьведчаньні /ступень пашырэньня і адаптацыі ў народна-дыялектнай мове/. Паколькі многія з вышэй названых паланізмаў былі занатаваныя ў помніках старабеларускай пісьменнасьці, іх мэтазгодна аднесьці да даўніх запазычаньняў: адзінак, абываталь, акрэнт, бардзо, валька, вандзідла, вандзонка, вэдлуг, веле, велерыб, вельканоц, вонпіць, ворак, вылогі, выспа, гарды, гвязда, дзісь, длугі, крэска, нагрода, назвіска, обліг, ошуст, плуца, прасьцірадла, рыдзель, скрыдла, цурка і многа інш.4) Не выключаецца магчымасьць, што некаторыя з гэтых паланізмаў былі запазычаныя ў народныя гаворкі пазьней або паўторна, паколькі іх гучаньне і сэмантыка больш адпавядаюць этымонам сучаснай польскай, чым старапольскай мовы-крыніцы.

Асобныя паланізмы былі засвоеныя беларускімі гаворкамі, відавочна, не пазьней сярэдзіны XIX ст., аб чым сьведчыць іх

першая фіксацыя ў лексікаграфічных крыніцах гэтага часу. Гэта словы тыпу: атылы «здаровы, плячысты», амылка, белаглова, валаць, вархал, васпан і інш. (5)

Паланізмы, якія не адаптаваліся ў народнай мове, у большасьці сваёй адносяцца да больш позьніх запазычаньняў, яны выкарыстоўваюцца, як правіла, на пэрыфэрыі міжмоўнага ўзаемадзеяньня і зьяўляюцца вынікам тэрытарыяльных кантактаў. Гэта словы тыпу **зафша** «заўсёды», **осемнасьце** «васемнаццаць», **пахнонцы** «пахучы», **пшашларочні** «мінулагодні», **садзонка** «саджанец», **танонцы** «чалавек, які тоне», **тшыдзесьця** «трыццаць», **чвараграны** «чатырохвугольны» і інш. /ДСЗ, СПЗБ, НСл/.

Паколькі такія паланізмы зьвязвалі з уплывам «пальшчызны крэсовай», іх нярэдка не ўключалі ў беларускую рэгіянальную лексікаграфію. (6) Па гэтай-жа прычыне падобныя паланізмы некаторыя дасьледчыкі называюць інфільтрацыямі і не адносяць да запазычаньняў.

Неабходна адзначыць таксама, што рэгіянальныя паланізмы зьяўляюцца функцыянальна неадназначнымі. Многія з іх адносяцца да пасыўнага лексічнага запасу, падаюцца ў слоўніках з паметай рэдкае, малаўжывальнае, устарэлае. Запазычваньне многіх паланізмаў /асабліва фанэтычных і словаўтваральных/ ня было абумоўлена пэўнымі патрэбамі ў намінацыі, а зьявілася вынікам працяглых беларуска-польскіх кантактаў, паланізацыі слоўнікавага складу асобных груп беларускіх гаворак.

Польская мова, як адзначалася вышэй, зьявілася галоўным каналам сувязі паміж беларускімі гаворкамі і заходне-эўрапейскімі мовамі, у першую чаргу германскімі. Асобыя германізмы запазычваліся ў беларускую мову яшчэ ў старажытнасьці вусным шляхам у працэсе гандлёвых і эканамічных сувязяў усходніх славян з прыбалтыйскімі немцамі.(7) Гэта старажытнае славяна-германскае моўнае ўзаемадзеяньне ў далейшым падмацоўвалася кантактамі з нямецкімі каляністамі на Беларусі, у працэсе якіх у беларускія гаворкі запазычваліся пераважна ваенныя і гаспадарчыя назвы нямецкага паходжаньня.

Пэўная частка гандлёва-эканамічнай і прафэсійна-

рамесьніцкай лексікі засвойвалася народнай мовай з нямецкай праз яўрэйскую, носьбіты якой актыўна займаліся на Беларусі, пачынаючы з XII ст., гандлем, ліхвярствам і рознымі рамёствамі, у першую чаргу кавальскім і цясьлярскім.(8)

Але асноўнай крыніцай запазычваньня германізмаў у беларускія гаворкі была польская мова, што пацьвярджаецца некалькімі фактарамі, — геаграфіяй, сэмантыкай і фанэтыкай гэтых слоў.

Праз польскую мову засвойваліся пераважна народнагаспадарчыя назвы нямецкага паходжаньня. Сярод іх:

а) назвы прыладаў працы, прыстасаваньняў і іх частак: **абцэнгі** «абцугі» /Сцяшк., НЛС/ < пол. obcęgi < ням. Hebzange; **арпа, арха, варпа** «веялка» /ДСЗ, Янк., I, Касп., СГЦР/ < пол. harfa < ням. Harfe; **барта** «цясьлярская сякера» /СПЗБ/ < пол. barta < ням. Barte; **басак, бусак** «багор» /Сцяшк., Цых., Касп./ < пол. bosak < ням. Boshaken; **вінда** «прыстасаваньне для падняцьця цяжкасьцяў» /СПЗБ/ < пол. winda < ням. Winda; **вінкель** «вутламер» /СПЗБ, СГЦР/ < пол. winkiel < ням. Winkel; **вухналь, вахныль** «падкоўны гвозд» /Нас., Шат., Бяльк./ < пол. hufnal < ням. Hufnagel; **гамар** «верхняя ручка падоўжанай пілы» /Касп., Шат., СГЦР/ < пол. hamer < ням. Hammer; **граса, грац, граца** «матыка» /СПЗБ, ДСБ/ < пол. grasa < свням. Kratze; **клюба** «прылада для вымярэньня таўшчыні цёсу /СГЦР/ < пол. kluba < снням. Klobe; **кнібель, кныбель, кнэбіль, кныпяль** «завостраны калочак для вязаньня снапоў, кулёў» /НЛ, ДСЗ, ЖС, ЗНС, ЖНС, БДС, СПЗБ/ < пол. knebel; **пыталь, пытэль** «вальцавы млын» /Нас., СПЗБ/ < пол. pytel < свням. beutel і інш.

б) назвы будаўнічага матэрыялу, пабудоў і іх частак: **гевер** «частка восеці паміж слупамі, якія падтрымліваюць бэлькі, страху» /Касп./ < пол. hewer < ням. Heber; **гзымс, кзымс** «выступ на коміне», «карніз» /Нас., Шат., СГЦР, Бяльк./, «прымурак» /СПЗБ/ < пол. gzyms < нвням. gesims; **гонт, гонта, ганда, гонда** «дахавы матэрыял» /Янк., Мат., СПЗБ, СГЦР/ <пол. gont < ням. Gant; **дыхт(а)** «фанера» /Сцяшк., СПЗБ/ < пол. dykta < ням. Dichten; **клец (клёц)** «тоўстае бервяно» /НС/ < пол. kloc < нвням. Klotz; **мурлаты** «верхні вянок зруба хаты» /СПЗБ/ < пол. murlat < ням.

murenlatte; **нуты** «прапілаваныя праёмы ў дошках дзьвярэй, куды заганяецца шпона або пояс» /Сцяшк./ < пол. nuty < ням. Nute; **трам** «галоўная бэлька ў хаце» /СПЗБ/ < пол. tram < ням. Tramm; **шліфта** «апрацаваны чатырохкантовы брус» /Сцяшк./ < пол. szlifa < ням. Schlicht;

в) назвы прадметаў паўсядзённага ўжытку, у тым ліку адзеньня і яго частак: **андарак, андэрак** «саматканая суконная спадніца» /Сцяшк., СПЗБ, ЛП, ДСЛ/ < пол. inderak < ням. Unterrock; **барва** «верхняя вопратка яркага колеру» /Нас./ < пол. barwa < ням. varwe; **гестка** «какетка», «кофта» /СПЗБ, МММГ-77/, **геска** «манішка» /ЛП/ < ням. Geschke; **кляпа** «борт у вопратцы» /Сцяшк., НЛС, НС, СПЗБ/ <пол. klapa < ням. Klapp; **фальды, хванды** «зборкі, складкі» /СПЗБ/ < пол. fałda < свням. valde; галаўных убораў: **гэлм** «шлем» /СПЗБ/ < пол. hełm < свням. helm; тканіны: **гарус** «від тканіны» /Нас./ < пол. harus < ням. Harras; **дрыліх** «цік (тканіна)» /Нас., Касп./ < пол. drelich < ням. Drellich; нітак: **баволна, бавэлна, бавэл** «баваўняная папера, ніткі, пража» /Нас., Касп., ДСБ, СПЗБ, ЛП/ < пол. bawełna < ням. Baumwolle; **веба** «бавоўна» /Сцяшк./ < пол. weba < ням. Webe; **горан, горань, горын** «тонкія ніткі для вышываньня, мулінэ» /СПЗБ/ < ням. Garn; **камэля** «баваўняныя ніткі» /СПЗБ/ < ням. Kammgarn; **едваб** «шаўковыя ніткі» /Нас., Касп., Сцяшк./ <пол. jedwab < ствням. gutawebbi; абутку: **барлёчы** «грубыя жаночыя чаравікі» /Касп./ < пол. berlacze < ням. Barenlatschen; ежы: **бікусы** «расольнік» /ЖС, ДСБ/ < пол. bigos < ням. Beiguss; **флякі** «кулінарная страва, прыгатаваная са страўніка» /СПЗБ/ < пол. flaki < ням. Fleck; пітва: **трунак** «віно» /Сцяшк., Цых./ < пол. trunek < свням. trunk; посуду: **брытван** «бляшаны посуд для выпечкі мяса ці цеста» /Сцяш., СГЦР/ < пол. brytfanna < ням. Bratphanne; **кібель** «чан, кубел» /СГЦР/ < пол. kibel < ням. Kubel;

г) назвы асоб па разнастайных прыметах: **афэрма, оферма, лоферма, ахвэрма** «нязграбная, неахайная асоба» /СГЦР, ТС/ < пол. oferma < ням. ohne Forme; **банкарт** «пазашлюбнае дзіця» /Шат., Касп., СПЗБ/ < пол. benkart < ням. Bankart; **бэля, бэйла** «неахайная жанчына» /ЛП, СГЦР/ < пол. bela < ням. Ballen; **гунсвот, гунцвот** «нягоднік» /Нас.,

Цых./ < пол. huncwot < нвням. Hundsfott; **лотр(а)** «гультай, п'яніца, нягоднік» /Нас., ЖС, СПЗБ,ТС, СГЦР, Бяльк./ < пол. łotr < свням. loter;

д) назвы транспартных сродкаў і іх частак: **біндзюг** «драбіны, воз, калёсы» /Бяльк./ < сннням. bindinge; **бляты** «від кузава воза, частка яго» ЛП/ < пол. blat < ням. Blatt; **лэдары** «воз, на якім возяць сена, снапы» /Касп./ < пол. ladry < ням. Leiter; **рэхва** «жалезны абруч,набіваны на калёсную ступіцу» /Нас., НЛС, СПЗБ/ < пол. rechwa < ням. Reif; **фура, хура** «вялікі воз, прызначаны для перавозкі грузу», «кібітка, фургон» /ЗНС, СПЗБ, ММMГ-74, МАСМ/ < пол. fura < ням. Fuhre;

е) мэтрычныя назвы: **брэта** «полка, мера шырыні», «мера воўны» /СПЗБ/ < пол. breta < ням. Breite; **бунт** «зьвязка чаго-н., жмут» /Нас., Касп., Бяльк., СПЗБ, ТС, СГЦР/ < пол. bunt < ням. Bund; **гак** «мера або дзялка зямлі ў Заходняй Беларусі» /Нас./ < ням. hak; **лан** «мера зямлі ў тры валокі» /Бяльк./ < пол. lan < свням. Lehen; **морг** «старая зямельная мера (0,71 га)» /СПЗБ/ < пол. morg < свням. morgen.

Лексіка іншых тэматычных групаў прадстаўлена ў гаворках адзінкавымі словамі.

У народнай мове ўжываецца параўнальна невялікая група слоў ангельскага паходжаньня, засвоеных праз польскую мову: **клёмба** «клумба» /СГЦР/ < пол. klab + клумба < англ. clump; **клюб, клюп** «клюб» /СПЗБ/ < пол. klub < англ. club; **корт** «грубая фабрычная тканіна» /Сцяшк., СПЗБ/ < пол. kort < англ. kord; **сьветар, свэтэр, свэдар, сьведар** «сьвітэр» /СПЗБ, Сцяшк., ДСБ, Цых./ < пол. sweter < англ. sweater; **нактайза** «гальштук, крават» /Сцяшк./, **міктайза, мыхтайка** «тс» /ЗНС, Сцяшк., Сл./ < пол. naktajza, miktajza < англ. necktie і інш. У лінгвістычнай літаратуры ёсьць меркаваньне, што запазычаньні тыпу нактайза, магчыма, былі прывезены на Беларусь рэпатрыянтамі з ЗША.(9)

Як відаць з прыкладаў, дыялектныя германізмы адносяцца пераважна да народна-гаспадарчай лексікі, іх запазычваньне было абумоўлена неабходнасьцю намінацыі новых рэаліяў у жыцьці сялянства, імкненьнем да разнастайнасьці моўных сродкаў, папаўненьня сінанімічных і

экспрэсіўных моўных рэсурсаў. Хоць германізмы ўжываюцца на ўсёй тэрыторыі Беларусі, але-ж тут таксама заўважаецца тэндэнцыя да іх канцэнтрацыі ў паўночна-заходніх гаворках.

У складзе дыялектных германізмаў можна выдзеліць даволі значную групу даўніх запазычаньняў, вядомых з часоў старабеларускай пісьменнасьці. Напрыклад, андарак, аплік, арпа, атрама, бавэлна, барта, біндас, брыжы, брытван, бунт, вінда, вухналь, гамар, гарус, клюба, клямар, кнібель, лёз, рэхва, фаса, шліфры і інш. /Гл. ГСБМ, ДЗ, ЛЗ/. Асобныя германізмы, занатаваныя ў слоўніку І. Насовіча, можна аднесьці да больш позьніх запазычаньняў: бэлька, банкарт, барва, бігус, войт, гзымс, гунсвот, дрыліх, пыталь, трунак. Многія германізмы засвойваліся ў народныя гаворкі ў XX ст.

Значнае месца сярод запазычаньняў, засвоеных беларускімі гаворкамі «заходнім шляхам» /праз польскую мову/, займаюць словы лацінскага паходжаньня. Як адзначаюць дасьледчыкі старабеларускай мовы, лацінская мова, пачынаючы з XV ст., актыўна выкарыстоўвалася ў Вялікім княстве Літоўскім у дыпляматычнай, юрыдычнай і справавой сфэрах, а ў другой палавіне XVI ст паралельна з польскай мовай выкладалася ў каталіцкіх і уніяцкіх школах. У працэсе пашырэньня лацінскае мовы ў галіне справаводзтва і адукацыі некаторыя лацінізмы засвойваліся старабеларускай мовай непасрэдна з сярэднявечнай латыні.10) Гэта была пераважна юрыдычная, сацыяльна-эканамічная і канцылярская лексіка. Абмежаваныя кніжнай сфэрай выкарыстаньня, такія лацінізмы мала пашыраліся ў вусным ужытку і рэдка засвойваліся народна-дыялектнай мовай. Асноўная маса лацінізмаў старабеларускай мовы была засвоена праз польскую.

У адрозьненьне ад запазычаньняў з іншых моваў многія рэгіянальныя лацінізмы адносяцца да адцягненай і тэрміналагічнай лексікі. Гэта:

а) юрыдычныя і сацыяльна-эканамічныя тэрміны: **акцэпцыя** уст. «частка зямлі, якую пакідалі сабе бацькі да канца жыцьця» /Нас.< пол. akceptacja < лац. acceptio; **алекцыя** «выбраньне» /Нас./ < пол. elekcja < лац. electio; **амаратура**

«пэнсія» /ДСЗ/ < пол. emerytura < лац. emerere; **камісацыя, камасацыя** «хутарызацыя» /ДСЗ, Сцяшк., Янк., І/ < лац. commissio; **ваканца** «вакансыя» /МММГ-77/ < пол. wakancja < лац. vacansintis; **квіт** «распіска, квітанцыя, білет» /Нас., ЗНС, ДСЛ,Касп., СПЗБ/ < пол. kwit < сярлац. quitus; **сарвітут, сорвітут, сэрвітут, сурвітут** «зямля, купленая сялянамі для агульнага карыстаньня», «паша на панскіх угодзьдзях» /СПЗБ/ < пол. serwitut < лац. servitus; **тэстамэнт** «завяшчаньне» /Бяльк./ < пол. testament < лац. testamentum; **фактар** «пасрэднік» /НС, СПЗБ/ < пол. factor < лац. factor; **фактура** «накладная» /СПЗБ/ < пол. faktura < лац. factura;

б) рэлігійная лексіка: **адвэнт** «пост перад калядамі» /СПЗБ/ < пол. adwent < лац. adventus; **афяра, ахвяра** «рэлігійная ахвяра ў дар царкве» /Сцяшк., СПЗБ/ < пол. ofiara < лац. offere; **вігілія** «урачыстая вячэра напярэдадні калядаў» /СГЦР/ < пол. wigilia < лац. vigilia; **мша** «імша, абедня» /Касп., Цых./ < пол. msza < лац. missa; **нешпар, нешпор, нішпор** «вячэрні час», «царкоўная вячэра» /Нас., Касп., Шат/ < пол. nieszpor < лац. vesper; **фэст (фэс)** «храмавае сьвята» /СПЗБ/ < пол. fest < лац. festum;

г) назвы адцягненых зьяў і паняцьцяў: **апінія** «рэпутацыя, аўтарытэт, гонар» /Сцяшк., СПЗБ, ДСЗ, ДСБ/ < пол. opinia < лац. opinio; **артыкул** «фокус» /Бяльк./ < пол. artykuł < лац. articulus; **вапоры** «настрой, капрызы, упартасьць» «Нас./ < пол. wapory < лац. vapor; **гумар** «упартасьць, наравістасьць» /Нас./ < пол. humor < лац. humor; **інвэньцыя** «імкненьне што-н. зрабіць, звычайна дрэннае» /Бяльк./ < пол. inwencja < лац. inventio; **мода** «матыў, мэлёдыя песьні» /МММГ-74/ < пол. moda < лац. modus; **компут** «агульны лік», « збор асоб або прадметаў» /Нас./ < пол. komput < новлац. computus; **скрупул** «крыхф, драбніца» /Нас./ < пол. skrupuł < лац. scrupulum; **турбацыя** «клопат» Янк., І, НС, ДСЗ/ < пол. turbacja < лац. turbatio.

Пэўная колькасьць лацінізмаў называе асоб па прафесійнай або характэрнай прымеце: **аматар** «круцель» /СНС/ < пол. amator < лац. amator; **амбіт** «ганарлівец», «паважны чалавек» /Нас/ < пол. ambit < лац. ambitus; **асэсар** «валадар», «фанабэрлівы чынуша» /СНС/ < пол. asesor < лац.

assessor; **бакаляр** «дзяк, дзячок», «школьны настаўнік» /Нас./ < пол. bakalarz < лац. baccalaureus; **бестыя, бэстыя** «нягоднік, бессаромнік» /ТС, Сцяшк., Нас./ < пол. bestia < лац. bestia; **ваган** «вельмі здаровы, мажны чалавек» /ЖНС/ <пол. wagant < лац. vagans/ntis; **мурын** «арап, чорны чалавек» /Нас./,«негр» /Цых./, «чорнавалосы, смуглы чалавек» /ДСЗ/ < пол. murzyn < лац. maurus.

Некаторыя лацінізмы называюць прадметы паўсядзённага ўжытку — хатнія рэчы: **куртына** «занавеска» /СГЦР/ < пол. kurtyna < лац. cortina; адзеньня: **вэлюм, вэлян, валянт** «вуаль, фата» /ДСЗ,СПЗБ,ДСБ,Цых./ < пол. welon < лац. velun; **габіт** «манаская вопратка» /Нас./ < пол. habit < лац. habitus; ёмістасьцяў і посуду: **барыла, борыло** «бочачка» /Нас., Касп., сцяшк., ТС/ < пол. baryla < сярлац. barillus; **куфа** «саракаведзерная бочка» /Нас./ , пол. kufa < лац. cupa; **патынка** «мэталічная талерка» /Нас./ < пол. patyna < лац. patina; прылады для пісьма: **аргуш, аркуш** «ліст паперы» /Нас./ < пол. arkusz < лац. arcus; **атрамэнт** «чарніла» /Касп., СПЗБ/ < пол. atrament < лац. atramentum; **бібула** «прамакальная папера» /ДСЗ, ДСБ,Цых./ < пол. bibuła < лац. bibulus; прадметы школьнага навучаньня: **лемантар** «буквар» /Нас., СПЗБ/ < пол. lamentarz < лац. elementarius; **мапа** «карта» /СГЦР, ДСБ/ < пол. mapa < лац. mapa.

Як відаць з пашпартызацыі прыведзеных прыкладаў, словы лацінскага паходжаньня зафіксаваныя пераважна на тэрыторыі паўночна-заходніх і цэнтральных беларускіх гаворак, што абумоўлена несумненным уплывам польскай мовы пры іх засваеньні. Асобныя з лацінізмаў абазначаюць аджыўшыя ў жыцьці беларускага народу зьявы і паняцьці, таму зьяўляюцца ўстарэлымі, малаўжывальнымі.

Пэўная частка названых вышэй лацінізмаў была вядомая і старабеларускай мове: адвэнт, алекцыя, амбіт, аркуш, асэсар, атрамэнт, афяра, бакаляр, барыла, бэстыя, бібула, ваканца, вэлюм і інш. /Гл. ГСБМ, ДЗ, ЛЗ/. Даволі значная колькасьць запазычаньняў лацінскага паходжаньня занатавана ў слоўніку І. Насовіча, — вядома ў беларускіх гаворках з сярэдзіны XIX ст.

У беларускіх гаворках ужываецца параўнальна невялікая

група запазычаньняў з раманскіх моваў, таксама засвоеных «заходнім шляхам». у асноўным гэта канкрэтна-прадметная лексіка, якая нярэдка засвойвалася разам з рэаліямі, якія яна называла. Так, напрыклад, словы французскага паходжаньня называюць пераважна вопратку, яе часткі, тканіну,упрыгожаньні: **анталяжы** «карункі» /Сцяшк., СГЦР, ДСБ/ < франц. entoilage; **бухмы** «буфы» /СГЦР/ < пол. bufy < франц. bouffe; **галёны** «тасьма», «карункі» /СПЗБ,ЖС,ДСБ/, «фальбоны на спадніцы ўнізе» /ТС/ < пол. galon < франц. galon; **гарсэт, гарсет, карсет** «кабат», «безрукаўка» /ДСЛ,СПЗБ,ЛП,Сцяшк./ < пол. gorset < франц. corset; ; **кукарда** «бант» /СПЗБ / < пол. kokarda < франц. cocarde; **леі** «нашыўкі на штанах, падцяжкі» /Сцяшк., НСл./ < пол. leia < франц. le; **манкет(а), манкэта** «манжэта» /ДСБ, СПЗБ, СГЦР/ < пол. mankiet < франц. manchette і інш.

У складзе запазычаньняў з італьянскай мовы вызначаецца група назваў пабудоў і іх частак: **аўстэрыя** «заезжы дом, карчма» /Нас., Бяльк./ < пол. austerja < іт. osteria; **альтана** «гара, мэзанін, балкон» /Нас./ < пол. altana < іт. altana; **баляса** «точаны слупок для агароджы, агароджа, шчыкет», «шост», «перакладзіна», «поручні» /СПЗБ, Нас., Шат., Касп., ТС, ПС/ < пол. balas(a) < іт. balaustro; **пацыят** «франтон» /ДСБ,БДС/ < пол. faciata < іт. facciata; **саля** «пакой», «зала» /СПЗБ, МММГ-74/ < пол. sala < іт. salle/

Праз польскую мову, як сьцьвярджаюць этымалягічныя дасьледаваньні 11), былі засвоены асобыя цюркізмы — назвы вопраткі, тканіны, упрыгожваньняў: **апанча** «доўгае і шырокае адзеньне» /СГЦР, МММГ-74/ < пол. opончa < тур. yapinca; **бархан** «мультан» /СПЗБ/ <пол. barchan < ар. barracan; **бісюркі** «бісер» /Нас./ < пол. bisiorka < цюрк. busra; **бурнус, бурнос** «верхняя мужчынская або жаночая вопратка» /Касп., Сцяшк./ < пол. burnus < тур. burnus; **кунтуш** «даўгаполы сурдут» /Нас./ < пол. kuntusz < тур. kontos; **сукманка** «кароткае жаночае верхняе адзеньне» /СПЗБ/, **сукман** «бурка, сьвітка» /Цых./ < пол. sukmana < тур. sukman; назвы жывёлаў: **ангоры** «парода трусоў» /Сцяшк./ < пол. angora < тур. Ankara; **бухай** «бугай» /Сцяшк./ < пол. buhaj < тур. buja; **вогер, огер** «жарабец» /БДС, Нас., Касп., ДСБ, СПЗБ/

< пол. ogier < тур. ojgur і інш.

Нешматлікай зьяўляецца таксама група этнаграфічных запазычаньняў з вэнгерскай мовы, якія называюць віды адзеньня, галаўных убораў, транспартных сродкаў і інш.: **бекеша** «від верхняга мужчынскага адзеньня» /Нас., ДСБ,ЛП, Сцяшк./ < пол. bekiesza < венг. bekes; **бунда** «старажытная жаночая сукенка», «бязрукаўка» /ЛП/ < пол. bunda < вэнг. bunda; **магерка, маргелка** «фетравая шляпа» /Сцяшк./, «лямцавая сялянская шапка» /Нас./ < пол. magierka < вэнг. magyar; **коч** «экіпаж, брычка» /СБК, 143/ < пол. kocz < вэнг. kocsi; **лагошы, лагожы, лагяжы** «сані-развалкі або выязныя сані» /СПЗБ,НС, ЗНС, Касп./ < пол. logosz < вэнг. logos.

Даволі складаным зьяўляецца вызначэньне паходжаньня некаторых дыялектных запазычаньняў, паколькі многія з іх адносяцца да так званых «культурных запазычаньняў», якія вандруюць з адной мовы ў другую, праходзячы шматступянёвы шлях. Напр., **бархан** «мультан» /СПЗБ/ < пол. barchan «тс» < ням. Barchent, іт. barracano < франц. barracan < ар. barracan «грубая тканіна»; **мапа** «карта» /ДСБ,СГЦР/ < пол. mapa «тс» < ням. Mappe < франц. mappe mond «выява зямной паверхні» < сяр. лац. mappa mundi «карта сьвету» < лац. mappa «сурвэтка, хустка». Запазычаньні такога тыпу ў нашым дасьледаваньні кваліфікаваліся паводле зыходнай мовы — крыніцы.

У працэсе функцыянаваньня ў беларускіх гаворках і ўзаемадзеяньня з уласнай лексікі многія запазычаньні зьмянілі сваю форму, гучаньне і сэмантычны аб'ём, прыстасоўваючыся да ўнутранага ладу народнай мовы. Іх адаптацыя суправаджалася ўтварэньнем шматлікіх варыянтаў, што ў значнай ступені абумоўлена лякальнай замацаванасьцю, вуснай формай існаваньня, узуальным характарам дыялектнай мовы.

Пры арэальнай характарыстыцы запазычаньняў можна выдзеліць бліжнюю зону або вузкі арэал, які прымыкае да непасрэднай этнакантактнай паласы і аддалены, шырокі арэал, які ня мае кантактнасьці з непасрэднай крыніцай запазычаньня. Па ступені канцэнтрацыі запазычаньняў у беларускіх гаворках вызначаюцца моцная, сярэдняя і слабая

зоны. Бліжняя зона, найбольш насычаная запазычаньнямі, прымкае да беларуска-польскага і беларуска-летувіска-латвійскага пагранічча. Яна ахоплівае частку паўночна-ўсходняга і заходнюю частку паўднёва-заходняга і сярэднебеларускага дыялектаў, — полацка-менскія, гародзенска-баранавіцкія і заходнепалескія гаворкі. Сярэдняя зона ўключае большую, але менш насычаную запазычаньнямі тэрыторыю і распаўсюджваецца на ўсходне-магілёўскія, віцебскія, усходнепалескія гаворкі. Слабой зонай канцэнтрацыі запазычаньняў зьяўляецца паўднёва-ўсходні арэал беларускіх гаворак.

У залежнасьці ад ступені распаўсюджаньня запазычаньняў у дыялектнай мове можна вызначыць іх агульнанародны, міждыялектны і лякальна-дыялектныя тыпы. Агульнанародныя запазычаньні ахопліваюць усе дыялектныя зоны Беларусі. Гэта словы тыпу **брыль, выспа, парэнчы, гэбель, келіх, лёх, сталюга, фура** і многа інш. Многія з такіх запазычаньняў набылі статус нарматыўных лексічных адзінак у пару фармаваньня сучаснай літаратурнай мовы.

Міждыялектнымі можна назваць запазычаньні, вядомыя ня ўсім, а толькі пэўнай групе беларускіх гаворак, часьцей за ўсё суседніх, сумежных тэрыторыяў: **гавэнда, дэнка, га́ка, люшня, ма́глі.**

Значная частка запазычаньняў мае ў беларускіх гаворках лякальнадыялектны характар, і сканцэнтравана ў бліжэйшай, этнакантакнай зоне, дзе ад паўночнага ўсходу да паўднёвага захаду разьмяшчаецца група астраўных іншаэтнічных гаворак, якія паступова асымілююць з беларускім моўным асяродзьдзем. Гэта запазычаньні тыпу **адпрэнчыць, бардзо,вонсач, всьцёнж, завшэ,зачонтак, гэнсты, дванасьцця, калёнцы** і многа інш.

Такім чынам, лексічная сыстэма народных гаворак у працэсе свайго фармаваньня і функцыянаваньня адчула значны заходні моўны ўплыў, асабліва з боку польскае мовы. Засваеньне іншамоўнай лексікі, большасьць з якой называе разнастайныя рэаліі народна-гаспадарчага жыцьця і прадметы штодзённага ўжытку, нярэдка суправаджалася запазычваньнем самі х рэалій і было выклікана неабходнасьцю

іх намінацыі. Іншамоўная лексіка, запазычаная і адаптаваная беларускімі гаворкамі, папоўніла іх лексічны склад, узбагаціла сінанімічны фонд і экспрэсіўныя рэсурсы.

## ЗАЎВАГІ

1) Жураўскі А. І. Двухмоўе і шматмоўе ў гісторыі Беларусі. /Пытаньні білінгвізму і ўзаемадзеяння моў. Менск, 1982. с.27.

2) Жураўскі А. І. Запазычаная лексіка ў старабеларускай мове. Паланізмы. /Гістарычная лексікалогія беларускай мовы. Мінск, 1970. с. 95; Булыка А. М. Лексічныя запазычанні ў беларускай мове XIV-XVIII стст. Мінск, 1980. с. 7.

3) Гл.: Вярэніч В. Л. Польскія перыферыйныя гаворкі на ўсходзе. /Польские говоры в СССР. Ч. І. Мінск, 1973. с. 5-7.

4) Гл.: Гістарычны слоўнік беларускай мовы. Мінск, 1982 - 1993. Вып. І-13; /ГСБМ/; Булыка А. М. Даўнія запазычаньні беларускай мовы. Менск, 1972. /ДЗ/; Булыка А. М. Лексічныя запазычанні ў беларускай мове XIV-XVIII стст. /ЛЗ/.

5) Носович И. И. Словарь белорусского наречия. СПб, 1870.

6) Мартынаў У. В. Адказы на анкету. /Беларуска-польскія ізалексы. /Матэрыялы для абмеркавання/. Мінск, 1975. с.97.

7) Жураўскі А. І. Запазычаная лексіка ў старабеларускай мове. Германізмы. с. 117; Мартынор В. В. Славяно-германское лексическое взаимодействие древнейшей поры. Минск, 1963 с. 32; Чартко І. І. Пранікненне германізмаў у лексіку старабеларускай мовы. /Весці АН БССР. Серыя грамадскіх навук./ 1966. № 1.

8) Карский Е. Ф. Белорусы. Введение к изучению языка и народной словесности. Вильно, 1904. с. 159.

9) Глінка С. /Варшава/. Адказы на анкету. /Беларуска-польскія ізалексы. с. 30; Этымалагічны слоўнік беларускай мовы. Мінск, 1991. Т. VII. с. 218.

10) Булыка А. М. Лексічныя запазычанні ў беларускай мове XIV-XVIII стст. с. 9.

11) Гл.; Этымалагічны слоўнік беларускай мовы. Мінск, 1978-1993. Тт. І-VIII.

## УМОЎНЫЯ СКАРАЧЭНЬНІ:

БДС — Шаталава Л. Ф. Беларускае дыялектнае слова. Мн., 1975; БКЭ — Беларускі казачны эпас / Складальнік У. В. Анічэнка/. Мн., 1976; Бяльк. — Бялькевіч І. К. Краёвы слоўнік усходняй Магілёўшчыны. Мн., 1070; ДСБ — Дыялектны слоўнік Брэстчыны. Мн., 1989; ДСЗ — Сцяцко П. Дыялектны слоўнік /З гаворак Зэльвеншчыны/. Мн., 1970; ДСЛ — Янкова Т. С. Дыялектны слоўнік Лоеўшчыны. Мн., 1982.; ЖНС — Жывое народнае слова. Мн., 1992; ЖС — Жывое слова. Мн., 1978; ЗНС — З народнага слоўніка. М., 1975; Касп. — Каспяровіч М. І. Віцебскі краёвы слоўнік. Віцебск, 1927; ЛП — Лексика Полесья: Материалы для полесского диалектного словаря. М., 1968; МДСГ — Матэрыялы для дыялектнага слоўніка Гомельшчыны /Беларуская мова. Мн., 1975-1982. Вып. 3-10; МММГ-74, МММГ-77 — Мтэрыялы для слоўніка мінска-маладзечанскіх гаворак. Мн., 1974, 1977; Нас. — Носович И. И. Словарь белорусского наречия. СПб, 1870; НЛС — Сцяцко П. У. Народная лексіка і словаўтварэнне. Мн., 1972; НС — Народнае слова. Мн., 1976; НСЛ — Народная словатворчасць. Мн., 1979; СГЦР — Слоўнік гаворак цэнтральных раёнаў Беларусі. Мн., 1990. Т. I; СБК — Сацыяльна-бытавыя казкі. Мн., 1976; СНС — Юрчанка Г. Ф. Сучаснае народнае слова. З гаворак Мсціслаўшчыны. Мн., 1988; СПЗБ — Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча. Мн., 1979-1986. Т. I-V; Сцяшк. — Сцяшковіч Т. Ф. Матэрыялы для слоўніка Гродзенскай вобласці. Мн., 1972; Сцяшк., Сл. — Сцяшковіч Т. Ф. Слоўнік Гродзенскай вобласці. Мн., 1983; ТС — Тураўскі слоўнік. Мн., 1977-1987. Т. I-V; Цых. — Цыхун А. П. Скарбы народнай мовы /з лексічнай спадчыны насельнікаў Гродзенскага раёну/. Гродна, 1993; Шат. — Шатэрнік Н. Краёвы слоўнік Чэрвеньшчыны. Мн., 1929; Янк. I — Янкоўскі Ф. М. Дыялектны слоўнік. Мн., 1959; Янк., Мат. — Матэрыялы для слоўніка народна-дыялектнай мовы. Пад рэд. Янкоўскага Ф. М. Мн., 1960; Яўс. — Яўсееў Р. Маці казала так. З гаворкі Бялыніцкага раёна. Мн., 1978.

# ХРОНІКА НАВУКОВА-КУЛЬТУРНАГА ЖЫЦЬЦЯ

## 1 9 9 2

Студзень-люты — ў Чыкага адбывалася выстаўка этнічнага мастацтва і ўмельства. Бралі ўдзел беларускія ўмельцы з Амэрыкі і Беларусі.

18 студзеня В. Кіпель чытаў даклад пра беларусаў Амэрыкі на паседжаньні бібліятэкараў, якія маюць дачыненьне да этнічных архіваў у штаце Нью Джэрзі.

У студзені пачалі адзначэньне 25 угодкаў ад заснаваньня філіі БІНІМу ў Канадзе. Адзначэньні адбыліся ў Таронта, Атаве і Бэры.

1 лютага ў Фундацыі Крэчэўскага Вітаўт Кіпель азнаёміў грамадзтва з беларускамоўным перакладам кнігі “Беларусы ў ЗША”.

2 лютага ў Нью Ёрку ў Цэнтры Мастацтваў імя Лінкальна /заля Аліс Тулы/ адбыўся канцэрт славянске народнае музыкі й танцу. Брала ўдзел беларуская танцавальная група “Васілёк” і індывідуальныя сьпевакі.

7 лютага ў Чыкага на 20-й гадавой канфэрэнцыі Амэрыканскае Асацыяцыі Бібліятэкароў Мастацтвазнаўства сп-ня Галіна Русак прачытала даклад “Слуцкі пояс — мастацкі твор”.

23 лютага ў Вашынгтоне адбылася канфэрэнцыя Асацыяцыі Амэрыканскіх Этнічных Групаў. Ад беларусаў браў удзел у канфэрэнцыі і прадставіў даклад аб беларусах Амэрыкі Вітаўт Кіпель.

**15-22 сакавіка** ў г. Саўт Рывэр /штат Нью Джэрзі/ адбылася 19-я гадавая выстаўка беларускага народнага мастацтва. У выстаўцы ўзялі ўдзел каля 50-х мастакоў і ўмельцаў з Амэрыкі, Канады і зь Беларусі.

**21 сакавіка** ў Чыкага адчынілася выстаўка беларускага мастацтва, якую арганізаваў Беларускі Каардынацыйны Камітэт Чыкага.

**26 сакавіка** ў Трэнтане /штат Нью Джэрзі/ адбылася канфэрэнцыя камісіі губэрнатара, якая займаецца пераглядам падручнікаў гісторыі для школаў па пытаньнях насьвятленьня гісторыі ўсходняе Эўропы. У камісіі ўзялі ўдзел сп-ня Галіна Русак і сп. Вітаўт Кіпель.

**28 сакавіка** ў горадзе Пэрт Амбой /штат Нью Джэрзі/ сп. Пётра Скепка чытаў лекцыю пра Беларусь у мясцовай сярэдняй школе.

**Сакавік:** два амэрыканскія навуковыя часапісы "Бюлетэнь Асацыяцыі Спэцыяльных Бібліятэкараў Амэрыкі" і "Запіскі Ньюёрскае Публічнае Бібліятэкі" адзначылі кар'еру ды ўклад сп-ні Зоры Кіпель у амэрыканскае бібліятэкарства, асабліва ў кампютэрызацыю каталягізацыі, а таксама распрацоўку беларускае калекцыі ў Нью Ёрскай Публічнай Бібліятэцы.

**2-4 красавіка** ў Гарвардзкім Унівэрсытэце адбылася канфэрэнцыя прысьвечаная пытаньням культурнага разьвіцьця народаў усходняе Эўропы. Сп-ня Марыя Паўля Сурвілла чытала даклад "Купальле: зьмены ды ўзмацненьне праз беларускі рытуал".

**17 красавіка** ў Нью Ёрскай Бібліятэцы сп-ня Зора Кіпель чытала даклад для бібліятэкараў-славістаў "Праблемы перадацьця кірылічнага шрыфту і ньюансы моўныя ў бібліятэчнай кампютарнай сыстэме Злучаных Штатаў".

**26 красавіка** ў Гэрыманаўскім Інстытуце /Калюмбійскі унівэрсытэт, Нью Ёрк/ д-р Ян Запруднік прачытаў даклад на тэму "Нацыянальнае адраджэньне Беларусі: рэчаіснасьць і спадзяваньні".

**24 траўня** ў Чыкага адбылося адзначэньне 50 гадовага юбілею найстарэйшае беларускае арганізацыі ў ЗША — Беларуска-Амэрыканскае Нацыянальнае Рады, якая была заснаваная ў восень 1941-га году.

**1-3 чэрвеня** на 62-й гадавой канфэрэнцыі Канадзкае Асацыяцыі Славістаў, якая адбывалася на абтоку Прынца Эдварда ў гор. Шарлёттаўн /Канада/ дзеяла беларуская сэкцыя арганізаваная праф. Зінай Гімпелевіч. У працах беларускае сэкцыі з дакладамі выступілі праф. Томас Бэрд, сп-ня Марыя Паўля Сурвілла, д-р Ян Запруднік і сп-ня Івонка Сурвілла.

**6-8 чэрвеня** ў Атаве /Канада/ адбывалася агульная канфэрэнцыя Канадзкай Этнакультурнай Рады. З дакладамі на беларускія тэмы выступалі д-р Раіса Жук-Грышкевіч, сп-ня Івонка Сурвілла, Сп. Янка Сурвілла і сп-ня Эва Пашкевіч.

**12 чэрвеня** сп. Васіль Мельяновіч выступіў з дакладам аб беларусах Амэрыкі на канфэрэнцыі Асацыяцыі Этнічных Групаў штату Мэрыленд у гор. Балтымор.

**19 чэрвеня** ў Ейльскім унівэрсытэце /штат Нью Ёрк/ адбылося адзначэньне 50 годзьдзя Польскага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Амэрыцы. Адным з дакладчыкаў быў д-р Вітаўт Кіпель. Ягоны даклад быў на тэму: "Беларусы ў перадваеннай Польшчы".

**27 чэрвеня** ў фундацыі імя П. Крэчэўскага ў Нью Ёрку д-р Ян Запруднік меў даклад на тэму: "Сучасны палітычны стан у Рэспубліцы Беларусь.

**27 чэрвеня** ў Беларускім Народным Доме ў г. Байвотэр

/Аўстралія/ адбылося адзначэньне 50-х угодкаў ад сьмерці Янкі Купалы. З дакладамі пра значаньне Янкі Купалы ў нацыянальным адраджэньні выступалі сп. Міхась Раецкі /малодшы/ ў ангельскай мове, а М. Раецкі /старэйшы/ ў мове беларускай.

**18 ліпеня** ў фундацыі імя П. Крэчэўскага ў Нью Ёрку адбыўся творчы вечар беларускага паэта, амбасадара Беларусі ў Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў сп. Генадзя Бураўкіна, які быў арганізаваны Арганізацыяй Беларуска-Амэрыканскае Моладзі. Уступнае слова пра паэта сказаў д-р Юрка Кіпель, а прысутны на ўрачытасьці беларускі паэт Масей Сяднёў выдатна схарактэрызаваў творчасьць Г. Бураўкіна.

**26-31 ліпеня** на рэсорце Бэлэр-Менск, /гор. Глен Спэй, штат Нью Ёрк/ адбываўся маладзёжны лягер, у часе якога было прачытана 6 лекцыяў пра Беларусь.

**10 жніўня** на рэсорце Бэлэр-Менск /гор. Глэн Спэй, штат Нью Ёрк/ адбылося спатканьне беларусаў выпускнікоў эўрапэйскіх унівэрсытэтаў па Другой Сусьветнай вайне.

**22 жніўня** на рэсорце Бэлэр-Менск адчынілася выстаўка беларускага друку на эміграцыі, якая трывала да пачатку верасьня.

**5-7 верасьня** ў гарадох Нью Брансвік-Саўт Рывэр /штат Нью Джэрзі/ адбылася што-двухгадовая Сустрэча Беларусаў Паўночнае Амэрыкі /20-я Сустрэча/ прысьвечаная адзначэньню 75-х угодкаў Першага Ўсебеларускага Кангрэсу. Даклад аб беларускай дзяржаўнасьці прачытаў В. Кіпель.

**22 верасьня** ў залі Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў адбылася ўрачыстая акадэмія прысьвечаная 110 гадавіне ад нараджэньня беларускіх бардаў Якуба Коласа й Янкі Купалы. Даклады прачыталі: сп. Г. Бураўкін і сп. П. Краўчанка.

**28 верасьня** ў фундацыі імя Пётры Крэчэўскага спадарства Вітаўт і Зора Кіпель прачыталі даклад "Купала-Коласа-ведная літаратура ў заходніх мовах".

**20 кастрычніка** ў Падуанскім унівэрсытэце /Італія/ была адчыненая мэмарыяльная дошка ў памяць Францішка Скарыны, выпускніка Падуанскага ўнівэрсытэту. Асноўныя даклады прысьвечаныя Ф. Скарыну чыталі сп-ры Пятро Краўчанка і Адам Мальдзіс.

**24-25 кастрычніка** ў горадзе Сэатл /штат Вашынгтон, ЗША/ адбылася 37-я гадавая канфэрэнцыя Міжнароднага Таварыства Этнамузыкалёгаў. Даклад на беларускую тэму чытала дактарант Мішыганскага унівэрсытэту сп-ня Марыя Паўля Сурвілла.

**9 лістапада** на унівэрсытэце Віланова /штат Пэнсыльванія/ была адчыненая выстаўка беларускіх мастакоў зь Беларусі. Куратар выстаўкі і аўтар каталёгу — сп. Уладзімір Адашкевіч.

**15 лістапада - 3 студзеня** ў Чыкага адбываўся Калядны Этнічны Фэстываль, у якім бралі ўдзел беларусы.

**22 лістапада** ў Кліўлендзе Публічная Бібліятэка ладзіла выставу "Новыя Беларускія Друкі", у якую былі ўлучаныя, як друкі Бацькаўшчыны, гэтак і друкі замежжа.

**16 сьнежаня** ў фундацыі імя Пётры Крэчэўскага адбылася адміністрацыйная зборка Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, на якой старшыня БІНІМу д-р Вітаўт Кіпель падаў да ведама бліжэйшыя навукова-друкарскія пляны Інстытуту ды зрабіў агляд дзейнасьці сяброў БІНІМу.

*Апрацаваў Вітаўт Кіпель*

# ЗЬМЕСТ

## У Беларускім Інстытуце Навукі й Мастацтва можна набыць наступныя кнігі:

№1. **Натальля Арсеньнева.** Між Берагамі. Выбар паэзіі.
New York – Toronto, 1979. 350 p. + XXXIX

№2. **Алесь Салавей.** Нятускная краса. Збор твораў.
New York – Melborne, 1982. 373 p. + XVI

№3. **Аляксандра Саковіч.** У Пошуках Праўды. Апавяданьні й аповесьці.
New York – Cleveland, 1986. 254 p.

№4. **Міхась Кавыль.** Міжагнёўе. Выбраныя творы.
New York, 1990. 344 p. + XXI

№5. **Уладзімер Дудзіцкі.** Напярэймы жаданьням. Збор твораў.
New York, 1994. 312 p. + XXIX

№6. **Мікола Цэлеш.** Хмары над Бацькаўшчынай. Апавяданьні.
New York, 1995. 299 p. + XXXV

№7. **Юрка Віцьбіч.** Антыбальшавіцкія паўстаньні і партызанская барацьба на Беларусі. New York, 1996. 397 + XVI